20 лістапада 2015 | № 44 (461)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10044

Нешта не так
стар. 3







# Як прадаць сінявокую стабільнасць?

## Спрыяльная сітуацыя не будзе цягнуцца вечна



Сяргей ПУЛЬША

Жудасныя тэракты ў Парыжы зноў прымусілі скалануцца ўвесь свет. Свет ужо даўно і не да канца асэнсавана ўступіў у новую рэальнасць, калі межы не з'яўляюцца перашкодай для тэрарыстычнай вайны. Аналітыкі сходзяцца ў думках, што зараз найвялікшай каштоўнасцю для ўсіх становіцца бяспека, спакой і стабільнасць.

Канешне, шок ад тэрактаў пройдзе — пра «Charlie Hebdo» і мільённыя акцыі салідарнасці з часопісам усе даволі хутка забыліся (што, магчыма, дало глебу да больш маштабнага паўтору сітуацыі). Аднак усё роўна на фоне барацьбы з «ІД», на фоне ўкраінскага канфлікту, амаль даказанага тэракту на борце расійскага рэйса «Кагалымавія» ў Егіпце, нашая краіна застаецца выспай той самай бяспекі і стабільнасці, якія, паўтаруся, усё больш каштуюць у свеце.

Эксперты кажуць, што ў выніку парыжскіх падзеяў афіцыйны Мінск пакуль што апынуўся ў выйгрышы. Месяц прайшоў пасля беларускіх выбараў, два тыдні — пасля чарговай інаўгурацыі, БДІПЧ АБСЕ яшчэ не паспела стварыць канчатковы даклад па назіранні, а свет пра Беларусь ужо забыўся. Бо ў нас усё ў парадку, у нас не страляюць і не ўзрываюць. У адрозненне, дарэчы, амаль ад усіх нашых суседзяў: Расіі, дзе ўзарвалі самалёт, Украіны з яе Данбасам, ЕС з Парыжам і крызісам уцекачоў.

Ёсць два шляхі дзеянняў у гэтай сітуацыі. Першы: сядзець моўчкі і ганарыцца сваёй стабільнасцю. Шлях другі — паспрабаваць манетызаваць гэтую стабільнасць.

Пакуль беларускія ўлады паспяхова ідуць па першым шляху. Аднак гэтая спрыяльная сітуацыя не будзе цягнуцца вечна. Зазначым, што Францыя пачала ўдзел у паветранай аперацыі ў Сірыі амаль адначасна з Расіяй. Адказ на гэтыя бамбардзіроўкі атрыманы не толькі французамі — расіяне атрымалі тэракт на борце «Кагалымавія», у выніку якога загінулі 224 чалавекі. Зразумела, ні Францыя, ні Расія не пакінуць тэракты без адказу: яны толькі ўзмоцняць аперацыі супраць «ІД». Гэта, канешне, павялічыць пагрозу далейшых тэрарыстычных атак, аднак пакінуць ісламістаў у спакоі — яшчэ горшае выйсце.

Пагроза тэрарызму ў Расіі пачне ўзрастаць найперш там, дзе яна мяжуе з ісламскім светам: на паўднёвых межах. Беларусь з Расіяй у адным ваенным блоку — АДКБ. І калі ў саюзніка на поўдні пачнецца «прасочванне» тэрарыстаў, мы абавязаны будзем дапамагчы, — калі нас, канешне, пра гэта папросяць. Галоўнае — дапамагчы так, каб і стабільная і сінявокая потым не стала мішэнню «ІД». Ці трэба выходзіць з АДКБ.

Днямі Аляксандр Лукашэнка абвясціў, што спадзяецца на сустрэчу з Пуціным, каб вырашыць «праблемныя пытанні, калі яны ёсць». Між тым відавочна, што ў Пуціна зараз сваіх пытанняў хапае — і з Данбасам, і з Сірыяй. Думаю, што ў кіраўніка Беларусі ёсць спадзеў: Пуцін дасць загад «разабрацца» з беларускім экспартам і дасць, можа быць, грошай, абы Аляксандр Рыгоравіч у гэты складаны час ад яго адчапіўся, бо не да яго зараз.




**Ход канём беларуская дыпламатыя можа зрабіць і ў бок Еўропы**

Пакуль расійская авіяцыя найбольш запатрабаваная ў Сірыі, можна адкласці на нявызначаны час і пытанне стварэння ў сінявокай расійскай авіябазы. Прынамсі, гэта адно з найбольш складаных пытанняў у размове з Пуціным для беларускага правадыра. Бо той сапраўды мае права запытацца ў Аляксандра Рыгоравіча: гаварыў ён ці не гаварыў пра расійскую авіябазу. І чаму адмаўляецца ад сваіх словаў?

Ход канём беларуская дыпламатыя можа зрабіць і ў бок Еўропы. Напрыклад, агучыць ім прапанову прыняць у Беларусі, напрыклад, мільён уцекачоў з Блізкага Усходу. А што? Кіраўнік краіны неаднаразова заяўляў, што ў Беларусі павінна быць не дзевяць мільёнаў, а дваццаць, а тое і трыццаць мільёнаў насельніцтва. Вось мы і прапануем ім за адпаведны ганарар пакінуць сабе пэўную колькасць сірыйцаў.

Гэта даволі бяспечна, таму што тыя ўцекачы ў Беларусь усё роўна не паедуць. Яны імкнуцца ў тыя краіны, дзе моцныя для іх сацыяльныя гарантыі, дзе можна жыць на дапамогу, не працуючы: Швецыя, Германія, Вялікабрытанія, тая ж Францыя. Каб уцекачы шукалі проста спакойнага жыцця, яны б пасядзелі ў транзітных краінах: тых жа Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі і іншых. Але яны прагнуць не толькі бяспекі, але і дабрабыту. Беларусь жа ім грошай не дасць — сваім не хапае.

Тым не менш, такая прапанова зробіць профіт беларускаму МЗС на еўрапейскай арэне.

Зразумела, што на гэтым фоне можна яшчэ раз паспрабаваць прадаць Захаду старую байку пра тое, што Беларусь з'яўляецца надзейным шчытом на шляху незаконнай міграцыі з усходняга боку. І, зразумела, не толькі незаконнай міграцыі, а таксама зброі з Усходу Украіны. Заходнія партнёры зараз вельмі ацэняць такія высілкі і намаганні — нешта можа абламіцца на мадэрнізацыю мяжы.

Можна яшчэ шмат што прыдумаць. Галоўнае — не марнаваць час магчымых бонусаў нашай стабільнасці.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ЛУНІНЕЦ. Рабочыя «Палімера» дамагліся бяспечных умоў працы



**Раней адміністрацыя прадпрыемства ігнаравала патрабаванні рабочых, якія тычыліся выканання заканадаўства аб ахове працы, што стварала пагрозу жыццю і здароўю працоўных.**

Пасля калектыўнага звароту рабочых у пракуратуру Брэсцкай вобласці нарэшце было выдадзена прадпісанне аб правядзенні праверкі, а таксама створана рабочая група з прыцягненнем спецыялістаў дзяржаўных кантралюючых органаў. У часе праверкі выяўлена, што пасля рэканструкцыі будынак склада гатовай прадукцыі ААТ «Палімер» выкарыстоўвалася не паводле мэтавага прызначэння. Пракуратура таксама прызнала слушнымі прэтэнзіі рабочых, якія тычыліся парушэнняў заканадаўства аб працы, санітарна-эпідэміялагічнага і прыродаахоўнага заканадаўства.

Па выніках праверкі пракурорам Лунінецкага раёна 8 службовых асобаў з адміністрацыі прадпрыемства прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. Кіраўніцтву загадана ў сціслы тэрмін ліквідаваць выяўленыя падчас праверкі парушэнні.

**spring96.org**

### БАРАНАВІЧЫ. Прадпрымальнік не хоча мірыцца з недахопамі на рынку



**Прадпрымальнік Мікола Чарнавус накіраваў чарговы ліст у Белкаапсаюз, дзе ўказаў на недахопы, якія мясцовае спажывецкае таварыства не спяшаецца выпраўляць.**

Мікола Чарнавус лічыць, што новы дырэктар Васіль Саўчанка за 4 месяцы працы на рынку пагоршыў умовы як для прадпрымальнікаў, так і для наведвальнікаў рынка. Знішчыў ёмкасць, у якую сцякала вада пасля дажджоў. Падчас затаплення адкрыў люкі, куды трапіла жыхарка Баранавіч Людміла Станкевіч. Выгнаў пад адкрытае неба з крытых радоў пенсіянерак, якія гандлююць ужываным таварам. З кантэйнерамі для смецця таксама ўзніклі праблемы.

**Беларускае Радыё Рацыя**

### НАВАПОЛАЦК. Андрэй Гайдукоў нагадаў пра зніклых палітыкаў



**На тумбе для афішаў былы палівязень павесіў партрэты Змітра Завадскага, Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага з надпісам «Беларусь памятае».**

Мінакам ён раздаваў улёткі, пазначаныя лагатыпам БХД, дзе цытаваліся словы экс-палітвязня Мікалая Статкевіча – заклік прыйсці на акцыю, прымеркаваную да гадавіны рэферэндуму 1996 года.

«Перад рэферэндумам, каб аслабіць супраціў перавароту, быў пазбаўлены сваёй пасады міністр унутраных справаў Юры Захаранка, які заяўляў, што служыць найперш Закону. Ужо падчас рэферэндуму быў незаконна пазбаўлены пасады старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар. У 1999 годзе абодва яны былі выкрадзеныя і забіты. У чарговую гадавіну ўсталявання дыктатуры ў нашай краіне мы ўшануем памяць тых, хто ахвяраваў сваім жыццём дзеля свабоды Беларусі. Мы не ведаем, дзе пахаваны Юры Захаранка і Віктар Ганчар. Таму мы прыйдзем да месцаў, дзе яны працавалі, – да будынкаў МУС і ЦВК, каб запаліць каля іх знічы памяці аб забітых», – гаварылася ва ўлётках, якія атрымалі навапалачане.

**spring96.org**

### СВІСЛАЧ. Працягваецца пераслед удзельнікаў Дня памяці паўстанцаў 1863 года



**На яшчэ трох удзельнікаў Дня памяці паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы складзены пратаколы.**

Віктар Сазонаў і Уладзімір Хільмановіч позвамі былі выкліканы ў РАУС Ленінскага раёна Гродна. Ім паведамілі, што прадстаўнікамі свіслацкай міліцыі ў адносінах да іх складзены пратаколы адміністрацыйных правапарушэнняў. З аналагічным пратаколам 18 лістапада ўчастковым міліцыянерам быў азнаёмлены гродзенскі грамадскі актывіст Эдвард Дмухоўскі. Прычым пратаколы ў дачыненні да Сазонава і Дмухоўскага сфальшаваныя. У іх гаворыцца, што яны знаходзіліся ў Якушоўцы ў час ускладання там кветак да памятнага крыжа. Насамрэч ні Сазонава, ні Дмухоўскага ў Якушоўцы ў той дзень не было. 31 кастрычніка яны прысутнічалі толькі ў Свіслачы.

**«Гарадзенская вясна»**

# Адкрыць бюджэт Мінска для народа

Пётр РУБЕЦ

**Каманда праекта «Кошт урада» прапанавала Мінскаму гарвыканкаму і Міністэрству фінансаў размяшчаць у адкрытым доступе квартальныя або штомесячныя справаздачы аб выкананні бюджэту сталіцы, пачынаючы з 1 студзеня 2016 года.**

Адпаведны зварот бліжэйшым часам плануецца накіраваць у гэтыя дзве дзяржаўныя структуры. У звароце, у прыватнасці, гаворыцца: «Гадавая справаздача аб выкананні бюджэту г. Мінска зацвярджаецца рашэннем Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў у адпаведнасці з пунктам 4 артыкула 124 Бюджэтнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, якое потым размяшчаецца ў прававых базах. Аднак грамадзяне ў цяперашні час не маюць магчымасці прасачыць штомесячнае або штоквартальнае выкананне бюджэту сталіцы».

Размяшчэнне гэтай інфармацыі ў адкрытым доступе дазволіла б грамадзянам, у першую чаргу жыхарам Мінска, зразумець, якія ў яго галоўныя крыніцы бюджэту, колькі грашовых сродкаў накіроўваецца на фінансаванне першачарговых выдаткаў — выплату заработнай платы, аплату лекавых сродкаў, жыллёва-камунальных і транспартныя паслугі і г.д.

Аўтары петыцыі зазначаюць: заканадаўча інфармацыя аб выкананні бюджэту горада Мінска не з'яўляецца канфідэнцыйнай, «таму просім забяспечыць штомесячнае або паквартальнае з'яўленне дадзенай інфармацыі на сайце Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь», — прапануюць яны.

Уладзімір Кавалкін, кіраўнік каманды «Кошт Урада», адзначае: «Бюджэт Мінска з'яўляецца абсалютным донарам для агульнага «гаманца» краіны. У прыватнасці, у 2015 годзе з мінскага бюджэту ў рэспубліканскі плануецца трансферт у аб'ёме 7,4 трыльёна рублёў. Мы просім Мінфін і Мінгарвыканкам пайсці насустрач грамадзянам і ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам рэгулярна інфармаваць людзей пра стан бюджэту горада».

Па ягоных словах, доля мясцовых бюджэтаў у агульным (кансалідаваным) бюджэце краіны складае каля 40%. Пры гэтым інфармацыя аб іх даходах і выдатках за рэдкім выключэннем не публікуецца.

Штогод Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў зацвярджае бюджэт горада Мінска. У дадзеным рашэнні ўсталёўваюцца: гранічны памер дэфіцыту бюджэту горада Мінска; даходы і выдаткі інавацыйнага фонду Мінгарвыканкама; размеркаванне бюджэтных прызначэнняў па распарадчыкам бюджэтных сродкаў у адпаведнасці з ведамаснай класіфікацыяй расходаў бюджэту горада Мінска і функцыянальнай класіфікацыяй расходаў па раздзелах, падраздзелах і відах; выдаткі бюджэту Мінска па бюджэтных каштарысах адміністрацый раёнаў у горадзе Мінску па функцыянальнай класіфікацыі расходаў бюджэту па раздзелах, падраздзелах і відах расходаў; пералік бюджэтных праграм, фінансаванне якіх прадугледжваецца за кошт сродкаў бюджэту горада Мінска.

Справаздача аб выкананні бюджэту сталіцы прадстаўляецца дакладна ў такім жа выглядзе.

# «Дзякуй» кожнаму, хто адмовіцца ад пакета!

**У Мінску, Салігорску і Віцебску пачалася антыпластыкавая кампанія «Дзякуй». Яна закліканая звярнуць увагу беларусаў на праблему празмернага спажывання поліэтыленавых пакетаў і пластыкавай тары і заахвоціць часцей адмаўляцца ад іх выкарыстання пры пакупках.**




«Ёсць дамоўленасць з сеткай гіпермаркетаў «Green» у сталіцы, Салігорску і Віцебску аб размяшчэнні нашага плаката. На ім намаляваны мілы, пазітыўны «зайцапакет», які дзякуе пакупнікам за тое, што яны паўторна выкарыстоўваюць пакуначкі, — распавёў пра сутнасць кампаніі яе арганізатар Леанід Піліпцэвіч. — Паводле першапачатковых планаў, наша кампанія павінна была ахапіць усе буйныя крамы Мінска, але, на жаль, ідэю пакуль успрынялі вяла».

Фактычна «Дзякуй» скіравана не супраць пластыка, а супраць аднаразовага выкарыстання ўпакоўкі як такой. «Самая экалагічная ўпакоўка — гэта яе адсутнасць. Астатняе — розныя кампрамісы», — сцвярджае Леанід.

Трэба адзначыць, што стандартная схема, так любімая PR-аддзеламі гандлёвых сетак, «замест пластыкавага пакета з нацэнкай 300% прададзім біяраскладальны/папяровы з нацэнкай 400% і аб'явім гэта экалагічнай кампаніяй», тут не падыходзіць. Сэнс акцыі не толькі ў тым, каб паменшыць выкарыстанне пластыка ў якасці ўпакоўкі, але і растлумачыць шкоду ад біяраскладальных і папяровых пакетаў. Бо тое, што пластыкавыя пакеты раскладаюцца сотні гадоў, ведаюць усе. Аднак не ўсе дасведчаныя, што альтэрнатыва ім — біяраскладальныя і папяровыя скруткі — таксама не экалагічна.

Вядома, што пры вырабе папяровых пакетаў вылучаецца на 80% больш выкідаў парніковых газаў, чым пры вытворчасці пластыкавых. У 4 разы больш сыходзіць энергіі, у 3 разы больш вады, а галоўнае — знішчаюцца дрэвы, якія самі паглынаюць вуглякіслы газ.

Не ўсё добра і з біяраскладальным пластыкам. Калі вугляродны след вытворчасці такога пластыка можна параўнаць са звычайным, то да яго раскладання ёсць пытанні. Метан, што вылучаецца пры гэтым працэсе, уплывае на глабальнае пацяпленне ў 24 разы мацней, чым вуглякіслы газ. Маюцца праблемы і з прамысловым рэцыклінгам такога матэрыялу. Не адпрацаваныя тэхналогіі як сумеснай перапрацоўкі пластыка, што раскладаецца, і звычайнага пластыка, так і іх паасобнага збору.

«Гэта значыць, праблема нашмат сур'ёзней, калі задумацца», — звяртае ўвагу Леанід.

Якая ёсць альтэрнатыва аднаразовым пакетам? Авоська! Здавалася б, смешная савецкая назва, а тым часам за ёй вельмі цікавы прадукт. Лёгкая, кампактная, трывалая сетка з ручкамі, вытрымлівае практычна любую нагрузку — чаму б і не? Падыдзе і любая шматразовая торба. Галоўнае — пакет з пакетамі, які ёсць у любой кватэры, павінен перастаць папаўняцца і з часам зусім зікнуць. Ну а «Дзякуй» вам скажуць і зайчык, і трус, і нашы нашчадкі заадно.

**Паводле Дзяніса Зелянко, greenbelarus.info**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нешта не так

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На здымках блокбастэра «Авель» лозунг «Жыве Беларусь» змянілі на «Нешта не так!». З тых часоў «Нешта не так!» — знакаміты інтэрнэт-мем.**


Фота www.b-port.com

Усё ў нас добра, але нешта не так, заявіў на пасяджэнні Саўміну прэм'ер Андрэй Кабякоў. Па яго ных словах, краіна ў поўным аб'ёме і ва ўстаноўленыя тэрміны разлічваецца па валютных даўгах без шкоды для міжнародных рэзервовых актываў. На пагашэнне асноўнага доўгу накіроўваецца прафіцыт рэспубліканскага бюджэту, які па выніках 9 месяцаў склаў Br16,4 трыльёна, або 2,6% ВУП. Валютны рынак стабільны, чысты продаж валюты насельніцтвам і суб'ектамі гаспадарання з пачатку года — амаль $350 мільёнаў. Па сальда гандлю таварамі і паслугамі маем лепшы вынік за апошнія 15 гадоў — за 9 месяцаў $1,2 мільярда. Палепшыўся плацёжны баланс, зафіксавана станоўчае сальда гандлю таварамі і паслугамі. Інфляцыя ў рамках прагнозу — 10,1%, такога не было з 2011 года.

Але нешта ўсё роўна не так. Міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі ў той жа час адзначыў: асноўныя макраэканамічныя паказчыкі не выконваюцца. Дрэнна спрацавалі прамысловасць, сельская гаспадарка, будаўніцтва. ВУП Беларусі ніжэй мінулага года на 3,9% за 10 месяцаў. Аб'ёмы прамысловай вытворчасці апошнія тры месяцы стаяць на ўзроўні 92,9%.

Што гэта значыць? Гэта значыць, што краіна ўвайшла ў стадыю «глыбокай замаразкі». Продаж валюты азначае, што насельніцтва выцягвае з кубышак апошнія долары, каб толькі пражыць. А прафіцыт рэспубліканскага бюджэту не ў малой ступені дасягнуты за кошт дэвальвацыі нацыянальнай валюты. Што тычыцца «лепшага сальда за 15 гадоў», — зразумела, што яно дасягнутае за кошт пераліку ў бюджэт расійскай экспартнай мыты на нафту. За 9 месяцаў $1,2 мільярда — гэта тыя паўтара мільярды, пра якія мы дамовіліся з Масквой ужо даўно. Так што ніякага цуду тут няма — мы па-ранейшаму сядзім на «нафтагазавай ігле».

З гэтым трэба нешта рабіць. Саўмін, як заўсёды, разлічвае на дырэктыўнае кіраванне. «Ад Савета Міністраў патрабуецца прыняцце апэратыўных і сістэмных мер, каб пашырыць вузкія месцы ў эканамічным развіцці, не парушаючы збалансаванасці эканомікі», — рэзюмаваў Кабякоў.

У той жа час рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Рэспублікі Беларусь у студзені-верасні 2015 года знізіліся на 5,4%, паведамляе Белстат. Што будзе тады, калі ў насельніцтва канчаткова скончацца грошы, — невядома. У 2016-м годзе нам трэба аддаць па знешніх даўгах $3,5 мільярда. Дзе іх узяць, калі ВУП амаль на 4% «у мінусе»?

Перамовы з МВФ аб выдзяленні крэдыту ў $3 мільярда прыйшлі да завяршальнай стадыі. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў яго «ні адзін пункт, які прапануецца, не выклікае ніякага адарвання, ніякай алергіі». На ягоную думку, гэтыя прапановы заснаваныя на абсалютна аб'ектыўных законах эканомікі, жыцця. «Формула адна: атрымліваеш паслугу — плаці за гэтую паслугу ў поўным аб'ёме. Ці то электрычнасць, цяпло, транспартнае абслугоўванне і гэтак далей. Пытанне толькі ў адным — у тэрмінах», — агучыў сваё пярэчанне беларускі кіраўнік.

Але і тут «нешта не так». У той жа час Лукашэнка паведаміў фонду, што не мае намеру «ламаць тую схему сацыяльнай дзяржавы, якая намі выпрацавана. Сэнс у тым, што мы не можам кінуць ніводнага дзіцяці, ніводнага старога, інваліда без дапамогі нашага грамадства, дзяржавы», — заявіў Лукашэнка.

Якім чынам «дапамога дзяржавы» можа сумяшчацца з «аплатай паслуг у поўным аб'ёме»? Гэта значыць, нас усё ж такі, у дадатак, чакае рэформа сістэмы сацыяльнага забеспячэння? Пра яе кажуць ужо багата часу. Але па сутнасці яна як была савецкай, так і засталася.

Ці пацягнем мы адразу дзве рэформы: тыя «сістэмныя», якія патрабуе МВФ, і сацыяльныя, якія, пэўна, мае на ўвазе Аляксандр Рыгоравіч? А можа, ён вырашыў, што рэформа сацзабеспячэння ўжо праведзеная?

Зноў «нешта не так».

Некаторыя эксперты (у прыватнасці, эканамісты Сяргей Чалы і Леў Марголін) сцвярджаюць, што ніякіх структурных рэформаў у нас не будзе. Проста патрабаваннямі МВФ кіраўнік краіны маскіруе планаванае падвышэнне коштаў на паслугі ЖКГ, электраэнергію, газ і ваду для насельніцтва. А таксама меркаванае падаражанне грамадскага транспарту.

Ці будуць грошы ў насельніцтва аплачваць гэтыя паслугі, часцяком не самай лепшай якасці? Перспектывы тут даволі невясёлыя. Той жа міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі падчас правядзення сусветнага тыдня прадпрымальніцтва, што адбыўся ў Мінску, паведаміў, што ўлады на працягу бліжэйшых пяці гадоў маюць намер правесці вялікія скарачэнні на гігантах айчыннай вытворчасці.

Такія прадпрыемствы, як «МАЗ», «МТЗ», «Беларускі металургічны завод» і шэраг іншых машынабудаўнічых заводаў і фабрык чакае пераход ад «палітыкі захавання працоўных месцаў да палітыкі максімалізацыі аддачы кожнага працоўнага месца», — цытуе міністра «Радыё Рацыя».

Па ягоных словах, прадугледжваецца ўдасканаленне сістэмы кіравання эканомікай, укараненне новых падыходаў да мадэрнізацыі эканомікі, атрыманне дзяржпадтрымкі на выключна конкурснай аснове, фарміраванне паўнавартаснага фінансавага рынку.

І зноў тут «нешта не так». Таму што ў Мінску — амаль 25% стратных прадпрыемстваў, якія выжываюць толькі дзякуючы дзяржпадтрымцы. А ўвогуле па краіне, як сведчаць дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта, больш за 20% айчынных прадпрыемстваў з'яўляюцца стратнымі. Датацыі і льготныя крэдыты атрымліваюць больш паловы прадпрыемстваў дзяржаўнага сектара эканомікі. Калі скарацiць ім датацыі — не толькі МАЗ, МТЗ і БМЗ чакаюць скарачэнні. А беспрацоўе вырасце на чвэрць як мінімум.

І ўся гэтая чвэрць павінна будзе яшчэ і сплаціць падатак на дармаедства.

Але выратуе нас, як заўсёды, Расія. Мы ўжо пісалі, што Расельгаснагляд правёў праверкі, паводле якіх 100% расійскага малака піць нельга — не адпавядае санітарным нормам. А зараз гэтае ж ведамства высветліла, што і стварылі гэтае малако невядома хто: у выніку праверкі вытворчасці і абароту малочнай прадукцыі выявіў 24 прадпрыемствы, якія былі паказаны на ўпакоўках тавараў як вытворцы, але адсутнічалі па заяўленых адрасах.

Так што — усе на фермы, да кароваў! А малако — расіянам. І будзе нам шчасце.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Андрэй Бандарэнка

**Праваабаронцы заклікалі ўлады спыніць цкаванне ў турме вязня сумлення і былога кіраўніка арганізацыі «Платформа Інавэйшн».**

Праваабаронцы аднaзначна заявілі, што цкаванне Бандарэнкі звязанае з ягонай праваабарончай дзейнасцю. «Ад пачатку адбыцця пакарання ў ВК-2 і пасля — у ВК-17, паўстала небяспека для жыцця і здароўя Бандарэнкі, у сувязі з чым ён неаднаразова змяшчаўся ў так званае бяспечнае месца, а фактычна — у ізаляваную камеру. Гэта адбывалася ў сувязі з патураннем адміністрацыяй калоніі усталяванню сярод зняволеных нефармальных адносін, якія дазвалялі ствараць умовы для жорсткага, зняважальнага абыходжання з асобнымі асуджанымі», — гаворыцца ў заяве праваабаронцаў, якая накіраваная начальніку Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Рэспублікі Беларусь Сяргею Дарошку.

Праваабаронцы нагадваюць начальніку ДВП МУС, што дзяржава гарантуе абарону правоў, свабодаў і законных інтарэсаў асуджаных, забяспечвае ўстаноўленыя законам умовы прымянення пакарання і іншых мер крымінальнай адказнасці ў дачыненні да асуджаных, гарантыі сацыяльнай справядлівасці, іх сацыяльную, прававую і іншую абароненасць. Кіраўніцтва ж калоніі, замест абароны правоў зняволенага, вынесла Бандарэнку некалькі спагнанняў па фармальных прычынах, у выніку чаго ён стаў «злосным парушальнікам», быў пазбаўлены права на амністыю і зараз рыхтуецца да змяшчэння ў турму.



### Андрэй Раўкоў

**Міністр абароны запэўнівае: ніякія «зялёныя чалавечкі» і «ветлівыя людзі» краіне не пагражаюць.**

«Да гэтых формаў і спосабаў вядзення вайны, асабліва да іх пачатку, калі казаць шчыра, мы пачалі рыхтавацца яшчэ гадоў 15 таму. У нас створаны такія арганізм, як сілы спецыяльных аперацый, якія здольны супрацьстаяць выклікам і пагрозам гібрыднай вайны», — сказаў ён.

«Мы актыўна развіваем сістэму тэрытарыяльнай абароны, для таго, каб можна было весці ўсенародную барацьбу супраць тых, хто паспрабуе развязаць супраць нас нейкія дзеянні, у тым ліку ўзброеныя. Мы актыўна працуем над гэтым пытаннем і маем пэўныя дасягненні, якія цяпер нават запатрабаваны ў краінах блізкага і далёкага замежжа, — у пытаннях будаўніцтва і развіцця ваеннай арганізацыі дзяржавы», — заўважыў міністр абароны.

У той жа час ён заявіў, што новая рэдакцыя ваеннай дактрыны Беларусі, распрацоўка якой цяпер завяршаецца, мае выключна абарончую накіраванасць. «Ніводную дзяржаву мы не разглядаем як ворага, мы не прэтэндуем ні на чыю тэрыторыю, але сваю тэрыторыю, натуральна, мы не аддамо», — запэўніў міністр абароны.

### Джэф Глас

**Канадскі галкіпер клуба «Дынама-Мінск» Джэф Глас заявіў, што з задавальненнем зменіць канадскае грамадзянства на беларускае, каб выступаць за нацыянальную зборную.**



Па словах вартавога брамы «бела-блакітных», у Мінску ўсё арганізавана на вышэйшым узроўні, таму ў яго толькі станоўчыя эмоцыі. Ён заўважыў, што ўся Беларусь «хварэе хакеем». «Тут кожны заўзятар ведае гульцоў у твар, на трыбунах заўсёды вар'яцкая падтрымка, а атмасфера на матчах не саступае канадскай. Атрымліваю задавальненне ад гульні за «Дынама», і калі мне прапануюць прыняць беларускае грамадзянства, я адназначна пагаджуся. Для мяне было б вялікім гонарам гуляць за зборную Беларусі на чэмпіянаце свету», — сказаў Глас.

Падаецца, ён усё ж пераблытаў турызм з эміграцыяй.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Адкуль ідзе пагроза беларускай стабільнасці?

**Вынікі развіцця краіны ў пэўную эпоху вымяраюцца тым, наколькі ёй атрымалася забяспечыць стабільнасць у спалучэнні з дынамічным развіццём.**

*— А што наогул у свеце робіцца?*
*— Стабільнасці няма. Тэрарысты зноў захапілі самалёт.*

Гэта цытата з фільма «Масква слязам не верыць» 1979 года, але, калі меркаваць па падзеях у Францыі, за мінулыя дзесяцігоддзі стабільнасці ў свеце не пабольшала. Аднак няма правіл без выключэння. «Сёння наша краіна — адзін з нямногіх найбольш стабільных куткоў у свеце». Так лічыць адзіны палітык (АП).

У беларускай стабільнасці два складнікі. Па-першае, народ, які 11 кастрычніка «ў чарговы раз прадэманстраваў усяму свету найвышэйшую палітычную культуру, адзінства перад тварам знешніх выклікаў і незалежнасць меркаванняў». Па-другое, *«власть имущие»* (тэрмін АП) на чале са «звычайным чалавекам» не дапусцілі за 20 гадоў «сістэмных памылак». Тым, хто ў гэтым сумняваецца, я рэкамендую звярнуцца да тэксту выступу АП на цырымоніі прынясення прысягі 6 лістапада.

Аднак стабільнасць бывае розная. Эканоміка можа стабільна расці, а можа і стабільна падаць. Магчымы і больш складаны варыянт, калі стабільны рост колькасных паказчыкаў суправаджаецца стабільнай дэградацыяй паказчыкаў якасных.

Напрыклад, на працягу многіх гадоў тэмпы росту даходаў насельніцтва ў Беларусі апярэджвалі тэмпы росту прадукцыйнасці працы. Звычайнага працаўніка такое апярэджанне не хвалявала. Адна справа — дэманстраваць «усяму свету найвышэйшую палітычную культуру» і зусім іншае — разумець, якім чынам можа адгукнуцца эканамічны папулізм *«власть имущих»*.

А ён адгукнуўся. За студзень-верасень беларускі экспарт скараціўся на 26,7% да аналагічнага перыяду мінулага года. Здавалася б, такую дынаміку варта разглядаць у якасці адказу на пытанне: «Што мы зрабілі не так?», пастаўленае АП 6 лістапада. Я некалькі разоў перачытаў тэкст выступу. І што? Дзіця нарадзілася — акружылі клопатам. Пайшло ў школу — акружылі клопатам. Чалавек выйшаў на пенсію — а клопат ужо тут як тут. Аднак пра правалы ў эканоміцы — ні слова.

### З пустымі рукамі

Стабільнасць, як падказвае нам падручнік азбукавых паліталагічных ісцін, бывае двух тыпаў: звязаная з эвалюцыйным развіццём або, наадварот, з павольным загніваннем. Застылых (заспіртаваных) грамадстваў у прыродзе не існуе. Заспіртаваць можна жабу, але грамадства, што схільнае спажываць чыстага алкаголю больш за 8 літраў на чалавека ў год, пачынае фізічна выраджацца.

Беларусь, згодна з апошняй справаздачай Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), з 14,4 літра на чалавека ўпэўнена лідзіруе ў Еўропе. У агульным рэйтынгу выпадкаў суіцыдаў Беларусь займае 19-е месца з паказчыкам 18,3 самазабойства на 100 тысяч насельніцтва, а па колькасці суіцыдаў сярод мужчын — 11-е месца (32,7).

Ёсць два асноўных тыпы рэакцый індывідаў на крызіс: пратэст і сыход. Пратэст — гэта актыўнае процідзеянне крызісным з'явам, спроба з імі змагацца. Сыход — гэта пасіўная рэакцыя пакора, згода на зніжэнне жыццёвага ўзроўню (негатыўная адаптацыя), унутраная эміграцыя. І як крайнасць сыходу — самагубства. У Беларусі ў год яго выбіраюць каля 2 тысяч чалавек.

Палітычная стабільнасць — прыватны выпадак агульнай стабільнасці. На працягу амаль двух дзесяцігоддзяў яна падтрымлівалася ў Беларусі, галоўным чынам, за кошт росту рэальных даходаў насельніцтва. Зразумела, свой уклад у палітычную стабільнасць уносілі людзі ў пагонах і работнікі ідэалагічнай «вертыкалі».

Але як унутраная, так і знешняя сітуацыя імкліва мяняецца. Адказам на гэтыя змены павінна стаць павышэнне эфектыўнасці ў працы сілавых ведамстваў. У прыватнасці, 10 лістапада на нарадзе па пытаннях развіцця дзяржаўных органаў сістэмы забеспячэння нацыянальнай бяспекі АП даў наступнае каштоўнае ўказанне: «Праверкі ажыццяўляць трэба выключна тады, калі на руках аб'ектыўны аператыўны матэрыял. На гэта я буду звяртаць асаблівую ўвагу. І крый Божа, калі вы зоймецеся нейкім прадпрыемствам і **пойдзеце адтуль з пустымі рукамі** (*выдзелена. — С.Н.*)». Але беларускім сілавікам гэта не пагражае. Ім ёсць з каго браць прыклад. У Расіі колькасць зарэгістраваных эканамічных злачынстваў у 2014 годзе знізілася на 24%, а колькасць асуджаных па эканамічных артыкулах павялічылася на 5%!




### Інстытуты важнейшыя за асобу

Галоўны запавет прагматыстаў: пакуль працуе — нічога не чапай. Гэтым прынцыпам кіраваўся і АП 6 лістапада. У сваім кароткім дакладзе ён 28 разоў прамовіў слова «рэформы», але не для таго, каб пераканаць *«власть имущих»*, што сабраліся ў Палацы Незалежнасці, заняцца рэфармаваннем беларускай мадэлі. Наадварот, АП перакананы, што рэформы зруйнуюць «дзяржаўны лад Беларусі».

Добра жыць беларусам і дзяржаве сёння перашкаджае не адсутнасць рэформаў, а элементарная лянота. Але гэта лёгка выправіць. АП гатовы «сур'ёзна падштурхоўваць» тых, хто лічыць, што «вінаватая толькі ўлада». Рэформы варта пачынаць з сябе, г. зн. спыніць ленавацца. «Калі мы з сябе пачнём, мы спынім усялякія размовы пра рэформы. Мы проста будзем жыць выдатна», — выклаў свой рэцэпт пабудовы светлай будучыні АП.

Гэта не тактыка. Гэта стратэгія. Стратэгія, разлічаная, як мінімум, на бліжэйшую пяцігодку. І з ёй варта пагадзіцца. Яшчэ ў 1993 годзе амерыканскі эканаміст Джэфры Сакс папярэджваў, што найбольш цяжкая частка трансфармацыі звязаная зусім не з эканомікай, а з палітыкай. Эканамічныя рэформы непазбежна вядуць да з'яўлення груп тых, хто прайграў, і яны паспрабуюць выкарыстаць палітычныя магчымасці для зрыву рэформаў.

Тут варта патлумачыць, што ў Беларусі стабільнасць падтрымліваецца дзякуючы закрытасці, дзякуючы палітычнаму рэжыму, што імітуе дэмакратыю. Краіны ж Заходняй Еўропы і ЗША стабільныя ў сілу сваёй адкрытасці. У імітацыі дэмакратыі яны не маюць патрэбы.

Адкрытыя палітычныя сістэмы менш прыстасаваныя для падаўлення канфліктаў, але ўмеюць іх лепш прадухіляць і вырашаць. Роля інстытутаў тут важнейшая за ролю асобы. У такіх сістэмах ні ў каго няма гатовых рэцэптаў для рашэння ўсіх праблем, але затое маюцца інструменты для іх вырашэння.

Закрытыя палітычныя сістэмы, наадварот, не маюць механізмаў зменаў і эвалюцыі ў пазітыўны бок. Таму любая наспелая і перaспелая рэформа можа згуляць ролю першага каменьчыка ў гарах. АП гэта выдатна разумее. У якасці прыкладу спашлюся на праблему павышэння пенсійнага ўзросту. Цытую: «Мы наогул да гэтага пытання не падыходзілі. Я вам шчыра сказаў, што нам пенсійны ўзрост даўно трэба было павялічыць. <…> Мы абцяжарваем сваіх дзяцей. <…> Калі вы хочаце, каб у краіне было столькі пенсіянераў на столькі працуючых — калі ласка, але пенсія будзе меншай. Таму мы пенсійнае пытанне не чапаем. Маё меркаванне вы ведаеце. Але вы гэтага не хочаце».

Вось так лічыць «звычайны чалавек», які не дапусціў за 20 гадоў знаходжання на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе «сістэмных памылак». Усё правільна. Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць.

### Стабільнасць як нязменнасць

Мір і парадак на нашай зямлі — вышэйшая каштоўнасць. Калі непарадак, калі канфлікт, то не патрэбныя ні хлеб, ні зарплаты, ні рэформы. Так мяркуе АП, і спрачацца тут, на першы погляд, не выпадае. Што да іншага погляду, то без дапамогі класіка сучаснай канфліктalогіі, нямецкага палітолага Ральфа Дарэндорфа тут не абысціся.

Там, дзе грамадства, там і панаванне, сцвярджаў Дарэндорф. Панаванне спараджае няроўнасць, а няроўнасць, у сваю чаргу, спараджае канфлікты, якія служаць крыніцай... прагрэсу, у тым ліку пашырэння жыццёвых шанцаў людзей.

Вырашэнне канфліктаў немагчымае. Магчыма толькі іх рэгуляванне. Але для гэтага неабходна, каб канфлікты былі прызнаныя непазбежнымі ўсімі ўдзельнікамі. Гэта першы і абавязковы крок. Далей ідуць крокі па выпрацоўцы «правілаў гульні», па стварэнні органаў дзеля вырашэння канфлікту і арбітражу. Важна падкрэсліць, канфлікты не знікаюць шляхам іх рэгулявання, але яны губляюць сваю вастрыню.

Звернемся да канфлікту працы і капіталу, які апісаў Карл Маркс. Зразумела прынцыповая непераадольнасць гэтага канфлікту шляхам перамоваў. Маркс бачыў яго канчатковае рашэнне праз рэвалюцыі, поспех якой наўпрост павінен быў залежаць ад ступені арганізацыі працоўнага класа. Адна з формаў такой арганізацыі — прафсаюзы. Але чым мацней станавіліся прафсаюзы на Захадзе, тым ніжэй былі шанцы пасіянарыяў здзейсніць рэвалюцыю.

Гісторыя, такім чынам, адмовілася развівацца паводле Маркса, але яе ўрок у Беларусі так і не быў вывучаны. Для тых, хто дзеліць свет на сваіх і ворагаў, усвядоміць сацыяльную ролю канфлікту ў якасці стабілізатара эканамічных і сацыяльных працэсаў немагчыма. І масавым выданнем кніг па канфліктaлогіі сітуацыю не выправіць. Вось і даводзіцца ўсё большую колькасць рэсурсаў, што і так знікаюць на вачах, накіроўваць на падаўленне працэсаў самаарганізацыі грамадства (незалежных прафсаюзаў і СМІ, бізнесу і НГА).

Ідэальная стабільнасць ва ўяўленні АП — гэта нязменнасць. Улады — у першую чаргу. Але стабільнасць пры адсутнасці механізмаў узгаднення інтарэсаў можа быць не менш небяспечнай, чым нестабільнасць.

«Застойны рэжым, — падкрэслівае палітолаг Аляксей Малашанка, — пачынае жыць у адначчы і назаўжды ім жа самім устаноўленымі часе і прасторы, нічога не змяняючы, атаясамліваючы ўласны дабрабыт з дабрабытам нацыі — такім, якім ён выглядае ў яго вачах. Рэжым губляе магчымасць самаразвіцця, вычэрпвае сябе. Гэта можа працягвацца доўга, але рана ці позна яму прыходзіць канец».

Сказана пра Расію, але без купюр можа быць перанесена і на Беларусь. Калі я памыляюся, хай мяне выправяць. Буду ўдзячны за дапамогу ў разуменні беларускай стабільнасці.

# Паміж Варшавай, Лонданам і Тайбэем

**Інтэрнэт-рэсурс adukacyja.info — праект, створаны камандай аднадумцаў, для якіх адукацыя — стыль жыцця. Рэсурс прапануе шмат цікавай інфармацыі для тых, хто не хоча спыняцца на дасягнутым, а таксама знаёміць чытачоў з тымі, хто знайшоў працу ці вучобу мары, сваё пакліканне і шлях у жыцці. Прапануем вашай увазе аповед Алеся Аляхновіча.**



Фота adukacyja.info.

**Алесь Аляхновіч скончыў магістратуру ў Лонданскай школе эканомікі і Варшаўскай школе эканомікі, вывучаў менеджмент у Нацыянальным тайваньскім універсітэце. Працаваў у Нацыянальным банку Польшчы і кансалтынгавай кампаніі McKinsey, а цяпер з'яўляецца аспірантам Варшаўскай школы эканомікі і віцэ-прэзідэнтам даследчыцкага цэнтру CASE Belarus**

Я шчэ падлеткам я зразумеў: лепшае, што я магу зрабіць для Беларусі, — гэта вывучыцца, атрымаць досвед і вярнуцца, каб будаваць добрую і разумную краіну. На кожным этапе свайго развіцця я намагаўся выдзеліцца і даказаць, што беларусы вельмі таленавітыя і працавітыя. Гэта была вельмі эфектыўная матывацыя.

Эканомікай я зацікавіўся яшчэ ў школе, бо лічыў, што дзякуючы паляпшэнню эканамічных стандартаў можна вырашыць не толькі сацыяльныя праблемы, але таксама культурныя і палітычныя. Стварыць такія ўмовы, каб беларусы не мусілі з'язджаць са сваёй краіны ў пошуках лепшага, а маглі развівацца ў сябе дома. Каб беларусы не лічылі сябе ў чымсьці горшымі ад сваіх суседзяў, а пачалі сябе паважаць.

### Тры краіны, тры ўстановы адукацыі

Вышэйшую адукацыю я атрымліваў у Варшаўскай школе эканомікі (SGH), Нацыянальным тайваньскім універсітэце (NTU) і Лонданскай школе эканомікі (LSE). Кожная вучэльня і кожная краіна мае свае асаблівасці, свае плюсы і мінусы.

Напрыклад, LSE лічыцца найлепшай эканамічнай вучэльняй у Еўропе. Невыпадкова, узровень адукацыі ў LSE быў на галаву вышэйшы, чым у астатніх даволі ныдрэнных вучэльнях. Праграма навучання на гадавой магістратуры была вельмі інтэнсіўная, таму часу на студэнцкае жыццё заставалася зусім мала. Большасць часу трэба было праводзіць у бібліятэцы.

Затое ў SGH, якая з'яўляецца найлепшай эканамічнай установай у Польшчы, я мог здабываць больш практычныя веды. Напрыклад, кіраўніком маёй бакалаўрскай ды магістарскай працы быў прафесар Лешак Бальцаровіч, міністр фінансаў і кіраўнік Нацыянальнага банку Польшчы, аўтар пакета структурных рэформаў эканомікі на пачатку 1990-х гадоў.

А побыт на Тайвані мне запомніўся больш духоўным развіццём, бо там я меў найбольш часу, каб засяродзіцца на сабе. Пры гэтым краіна, адзін з гэтак званых «азіяцкіх тыграў», выклікала ў мяне асаблівую павагу. Нягледзячы на ўсе неспрыяльныя ўмовы, на працягу апошніх 66 гадоў яны стварылі адну з самых багатых краін у свеце. Таму калі мне хтосьці кажа, што беларусы не здольныя пабудаваць багатую краіну, бо ў нас дрэнныя стартавыя ўмовы, я ўзгадваю Тайвань. На працягу двух пакаленняў на пустым месцы раптам паўстала эканамічна перадавая краіна, якая здолела абараніць сваю незалежнасць.

**На кожным этапе свайго развіцця я намагаўся даказаць, што беларусы вельмі таленавітыя і працавітыя**

### Даражэйшае за дыплом

Самай незабыўнай і інспіруючай падзеяй навуковага працэсу была дзейнасць у студэнцкім руху, які вельмі развіты ў заходніх вучэльнях. Сістэма навуковых колаў і студэнцкіх арганізацыяў стварае ўмовы дзеля паглыблення сваіх зацікаўленняў у навуцы, бізнесе, спорце, модзе, падарожжах, парламенцкіх дэбатах ці яшчэ ў чым-небудзь.

У адным з такіх навуковых колаў я правёў некалькі студэнцкіх гадоў. Для мяне гэта была альтэрнатыўная сістэма адукацыі, кампліментарная да таго, што я меў на занятках. Вынікі нашых праектаў былі настолькі прыстойнымі, што мы маглі імі ганарыцца па-за межамі вучэльні. Напрыклад, эканамічныя прагнозы нашага кола займалі высокія месцы ў ранкінгах Нацбанку Польшчы на найлепшыя эканамічныя прагнозы, а справаздачы з пасяджэнняў нашага «Ценявога кабінету Рады манетарнай палітыкі» мы дасылалі самой Радзе манетарнай палітыкі. Вы не паверыце, але сам кіраўнік Нацбанку аднойчы каментаваў наш рапарт!

Людзі, з якімі мы крочым па жыцці, маюць на нас велізарны ўплыў. Я дагэтуль падтрымліваю кантакт з некаторымі сваімі выкладчыкамі, а яшчэ больш са сваімі студэнцкімі калегамі. Людскія кантакты, бадай, і ёсць самым каштоўным, што засталося. Веды з часам страчваюць сваю актуальнасць, а вось сяброўства можа пратрываць даўжэй.

**Паводле Вольга Турло, adukacyja.info**

### Рэцэпт поспеху ад Алеся Аляхновіча

- Стаўце перад сабой высокія мэты, бо яны будуць вас матываваць і падштурхоўваць да працы. Падавайце дакументы ў самыя прэстыжныя вучэльні. Не бойцеся, беларусы прысутнічаюць у кожнай сусветна вядомай вучэльні. Значыць, і вы можаце. На маю думку, варта выбіраць лепшыя навучальныя ўстановы не таму, што там лепшыя навучальныя праграмы, а таму што ў іх знаходзяцца больш цікавыя і мэтаскіраваныя людзі (вучні/студэнты і настаўнікі/выкладчыкі). А калі ты маеш адносіны з такімі людзьмі, то і сам робішся разумнейшым ці больш патрабавальным да сябе.
- Рыхтуйцеся да працэсу набору загадзя. Звычайна ўмовы набору ў замежныя вучэльні выглядаюць даволі падобна (асабістае рэзюмэ, выпіска са школьнымі ды ўніверсітэцкімі адзнакамі, 2–3 рэкамендацыі ад выкладчыкаў, адзін з міжнародных матэматычна-аналітычных іспытаў (GRE ці GMAT), моўны сертыфікат (напр. IELTS, TOEFL), яшчэ можа быць сумоўе ў самой установе). Каб паспяхова падрыхтаваць камплект дакументаў, вам можа спатрэбіцца прынамсі некалькі месяцаў.
- Выпрабоўвайце свае сілы і ніколі не здавайцеся. Магчыма, у вас не атрымаецца патрапіць у абраную вучэльню ці не атрымаецца з першага разу. Але калі вы не паспрабуеце, вы проста не дасце сабе шанцаў!
- Падарожнічайце, пакуль навучаецеся. Падарожжы адкрываюць вочы на свет, на іншыя падыходы да навукі, да працы, да жыцця. Яны вучаць талерантнасці, павазе да іншых нацыяў, а таксама лепшаму пазнанню сваёй краіны. Як пісаў паэт, «каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць».

# Уладзімір Дунаеў: «Студэнты не з'яўляюцца партнёрамі для рэктарата»

Вольга ХВОІН



Фота Вольгі Хвоін

**Як вядома, у БДУ ад 12 лістапада прынята палажэнне аб аплаце паўторнай здачы залікаў і экзаменаў. Гэтае рашэнне выклікала хвалю пратэсту сярод студэнтаў. Але голас студэнтаў не пачулі. Нягледзячы на тое, што Беларусь далучылася да Балонскага працэсу, такія важныя складнікі еўрапейскай сістэмы адукацыі, як студэнцкае самакіраванне, дыялог адміністрацыі са студэнтамі, аказаліся пакуль не запатрабаванымі.**

Такім чынам, з 1 студзеня 2016 года ў БДУ перасдачы залікаў і экзаменаў будуць каштаваць мінімум 30 000 беларускіх рублёў. У адміністрацыі БДУ мяркуюць, што ўвядзенне мінімальнай аплаты за перасдачы будзе стымуляваць студэнтаў лепш вучыцца.

Студэнты з гэтым не згодныя і мяркуюць, што адміністрацыя навучальнай установы мае намер абабраць іх і без таго лядашчыя кішэні. У кароткі тэрмін было сабрана больш за дзве тысячы подпісаў пад зваротам да рэктара БДУ Сяргея Абламейкі і міністра адукацыі Міхаіла Жураўкова супраць увядзення платы за пераздачу залікаў і экзаменаў.

«Падалі калектыўны зварот у рэктарат і чакалі ад адміністрацыі адказу — хацелі сваімі дзеяннямі справакаваць адміністрацыю БДУ да дыялогу са студэнтамі, але імгненнае прыняцце пастановы нас расчаравала. Мы мяркуем, што адміністрацыя прадэманстравала сваю непавагу да студэнтаў. Нам любяць нагадваць пра нашы абавязкі, але часта забываюць, што ў нас ёсць яшчэ і правы! Цяпер абдумваем план далейшых дзеянняў. Ужо тройчы хадзілі ў рэктарат, спадзеючыся запісацца на прыём да рэктара. Мы думаем, што сітуацыя не зусім безнадзейная, і яшчэ можна ўнесці змены ў прынятую пастанову ці цалкам яе адмяніць», — распавяла студэнтка Віялета, якая брала ўдзел у зборы подпісаў пад зваротам.

Паводле яе слоў, калі сустрэцца з рэктарам не атрымаецца, студэнтам давядзецца рабіць публічны зварот да рэктара праз СМІ.

Студэнты БДУ распавядаюць, што новаўвядзенне мала каму падабаецца. Аднак рэальна змагацца з гэтым хочуць далёка не ўсе. Прычына традыцыйная для беларускага грамадства: страх рэпрэсій з боку адміністрацыі — ніхто не хоча быць адлічаным ці займець праблемы ў вучобе.

Студэнт Аляксей (імя зменена па яго просьбе — ці ж гэта не сведчанне адсутнасці свабоды і наяўнасці атмасферы страху і рэпрэсій ва ўніверсітэце!) гаворыць, што некаторыя выкладчыкі ўхвалялі збор подпісаў і адстойванне студэнтамі сваіх правоў. Былі і тыя, хто супраць падобных дзеянняў.

Эксперт Грамадскага Балонскага камітэта, экс-рэктар ЕГУ, прафесар філасофіі Уладзімір Дунаеў звяртае ўвагу найперш на адсутнасць дыялогу паміж адміністрацыяй БДУ і студэнтамі, якія ёсць дзелавымі партнёрамі навучальнай установы.

«Платныя перасдачы і штрафы за прагулы заняткаў — не навіна, БДУ хіба адзін універсітэт, дзе гэта пакуль не практыкавалася. Плаціць ці не плаціць — у гэтым канфлікце другаснае пытанне. Такія моманты мусяць вырашацца ў радзе ўніверсітэта. Але як і парламент, у нас гэта не месца для дыскусій. З аднаго боку, ёсць выкладчыкі. Можа быць, яны сапраўды маюць права на дадатковую аплату. Але, як вынікае з сітуацыі, студэнты не з'яўляюцца партнёрамі для рэктарата. Студэнты фармальна прысутнічаюць у савеце ўніверсітэта, але дзе вынік гэтай прысутнасці? Добра, што ёсць рэакцыя з боку студэнтаў. Бо ў выніку паўстала пытанне пра студэнцкае самакіраванне, што няма сувязі паміж студэнтамі і органамі кіравання ўніверсітэта. І, канешне, нічога агульнага з еўрапейскай традыцыяй гэтая сітуацыя не мае», — гаворыць спадар Дунаеў.

Паводле яго словаў, ужо ёсць інфармацыя пра ціск на студэнтаў, якія паставілі свае подпісы пад зваротам, з боку адміністрацыі БДУ. Прафесар Дунаеў падкрэслівае, што гэты канфлікт мусіць быць публічным. Беларусь далучылася да Балонскага працэсу, і сістэма вышэйшай школы мусіць яму адпавядаць не толькі ў частцы навучальных праграм.

Сяргей ШАПРАН

# Людміла Гурчанка: «Жывая легенда» — гэта вельмі сумная гісторыя

Фота www.rus-img2.com

**У дні, калі адзначалася 80-годдзе Людмілы Гурчанкі, падалося вартым прыгадаць два эпізоды з жыцця актрысы, якія непарыўна звязаныя з Беларуссю і адзін з якіх не вядомы сёння ўжо нікому — размова ідзе пра хоць кароткае, але сяброўства з Алесем Адамовічам.**

Я быў знаёмы з Людмілай Маркаўнай, так бы мовіць, па абавязку службы: увосень 2001 года Гурчанка прыязджала ў Мінск з мюзіклам «Бюро шчасця», напярэдадні я патэлефанаваў Людміле Маркаўне дадому — з просьбай пра інтэрв'ю. Памятаю, яна між іншым прыгадала, што нядаўна дала вялікае інтэрв'ю адной расійскай газеце, праўда, журналістка пасля заўважыла, што не зможа надрукаваць яго цалкам — толькі вытрымкі. «Бачыла я пасля тыя вытрымкі...» — з горыччу сказала Гурчанка...

Тая наша гутарка выйшла на старонках «Белорусской деловой газеты», нумар якой я і прынёс Людміле Маркаўне перад спектаклем. Аднак высветлілася, што газету яна ўжо бачыла і цяпер была... шчыра ўдзячная за публікацыю. Людміла Маркаўна гаварыла такія добрыя словы, паўтарыць якія нават сёння, амаль праз пятнаццаць гадоў, няёмка.

Колькі яна ўжо дала за паўстагоддзя свайго творчага шляху тых інтэрв'ю... Хоць, здавалася, што магла дадаць яшчэ адна публікацыя?..

***— Няшмат каму дадзена яшчэ пры жыцці называцца «жывой легендай». Вы ўжо прабачце, калі ласка, Людміла Маркаўна, што так кажу пра вас. Але што гэта ўсё-ткі значыць — быць легендай?***

— Ды нічога! Я гэтага не разумею. Гэта так, як быць нібыта зоркай — у нашых умовах гэта гучыць проста смешна. Я яшчэ разумею, калі кажуць: таленавітая актрыса, акцёр. А зорка?.. Зорка павінна свяціць. Яна павінна быць дарагая і недасягальная. Джулія Робертс атрымлівае дваццаць мільёнаў долараў за ролю! Вось яна можа выбіраць — рэжысёра, сцэнар, краіну. А паколькі ўсе мы, так званыя зоркі, знаходзімся *(смяецца)* у найжахлівейшым становішчы, таму... Вось у мяне выйшла кніжка, дзе я напісала, што зорка — гэта высока і дорага. Зорка, разумееце, не павінна стаяць у чарзе па сасіскі. А паколькі ўсе мы стаім у гэтай чарзе па сасіскі, то мы проста таленавітыя людзі, якім выпала перажываць, па магчымасці, нашае жыццё.

***— Асабіста для мяне гэтая фраза — не ў грошах шчасце — служыць пэўным суцяшэннем. А для вас?***

— Гэта дакладна! Аднак без грошай... *(Смяецца.)* Але пра што вы цяпер кажаце — пра прафесію або пра побытавае жыццё? У побыце мне нічога не трэба — я ўсё ўмею рабіць сама. А ў прафесіі вельмі важна мець грошы для таго, каб, напрыклад, не згаджацца на дрэнныя ролі. І колькі я не зрабіла б ня добрых крокаў, але трэба ж было зарплату атрымліваць! Трэба ж, мілы мой, неяк жыць! У нас, у кінаакцёраў, заробак быў 350 рублёў. Потым — 450. Калі пачалася «перабудова», тыя людзі, хто не ўмеў нічога рабіць на эстрадзе, проста загінулі. Ці сталі весці вельмі сумнае існаванне... Так што, сапраўды, не ў грошах шчасце. Але без іх, бачыце *(смяецца)*, не можа быць «жывой легенды»... І потым, што значыць — «легенда»? Я ніякіх скандалаў не прыдумляю, нікуды не лезу, не пакідаю сцэну з размахам дзеля таго, каб потым яшчэ часцей на ёй жа з'яўляцца.




***— Мяркую, што чалавек-легенда — гэта той, пра каго яшчэ пры жыцці складаюць легенды, не?***

— Але гэта ўжо не я... Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне. Мне няёмка... Мяне яшчэ з «Карнавальнай ночы» замучылі. Вось гэта я ведаю! Калі выйшла карціна, усю мяне проста спаласавалі, змучылі і абмацалі! Тады казалі Бог ведае што! І хоць у дваццаць гадоў я яшчэ нічога не ведала *(горка ўсміхаецца)*, але ўжо ўсё прайшла — дзякуючы плёткам і перасудам. Так што, калі гэта і ёсць «жывая легенда», тады гэта вельмі сумная гісторыя.

***— Аднак я меў на ўвазе толькі добрае...***

— Добрага я бачыла вельмі мала. Яго я бачыла толькі ў другой палове свайго жыцця, калі, будучы ўжо сталым, бітым чалавекам, сыграла некалькі роляў... Калі разумела, што ад мяне ніхто нічога ўжо не чакае, што я памерла, загінула, што на мне крыж паставілі. На мне ж вельмі шмат крыжоў стаіць! І кожнага разу, калі грала новую ролю, пра мяне казалі: «Яна ўжо скончылася!..» Я стамілася ад свайго «сконy», разумееце? Гэта, можа быць, таксама «жывая легенда»...

**Потым Алесь Адамовіч даслаў ліст, у якім пісаў: «Вы павінны зрабіць нешта такое адкрытае і шчырае, што мужчына не ў стане зрабіць — толькі жанчына». Памятаю, я вельмі здзівілася гэтаму...**

Але падымаешся, і нейкія рэчы раптам вяртаюць цябе да жыцця — сустрэчы, таленавітыя людзі, музыка, нарэшце. Дарэчы казаць, музыка — гэта таксама шчасце...

### «Шчасце — гэта «сей-час»

***— Людміла Маркаўна, як бы вы ўсё-ткі вызначылі — што такое шчасце?***

— Шчасце — гэта такі кароткі момант: «сей-час». Вось гэта і ёсць шчасце. Напрыклад, мы зараз гаворым з вамі, нібыта разумеючы, адчуваючы адзін аднаго, — гэта і ёсць момант, які набліжае нас да гэтага «сей-час». Бо калі мы разумеем адзін аднаго, гэта ўжо вельмі шмат на сённяшні дзень. Можа быць, учора гэта было іншае «сей-час». Яшчэ раней «сей-час» было жарсцю і любоўю. Потым стала ўзаемаразуменнем. І хоць шчасце — імгненне вельмі кароткае, аднак яго заўсёды запомніш. Выдатна гаворыць Фаменка ў нашым мюзікле «Бюро шчасця»: «Жарсць можа парваць жанчыну на шматкі. Але рамантычную гісторыю яна будзе памятаць усё жыццё!» Бываюць у жыцці моманты, сустрэчы, калі адным словам, адным толькі намёкам або поглядам табе раптам даюць зразумець, што ты — цудоўны! Я маю на ўвазе — не я і вы, а чалавек цудоўны. Гэта вельмі важна.

### Пасля «Карнавальнай ночы» быў накдаўн

***— Людміла Маркаўна, тым не менш, ці можаце сказаць, што шчасліва пражываеце жыццё? Пaглядзеўшы на ўласны лёс збоку, вы пазайздросцілі б самой сабе?***

— Не, не пазайздросціла б. Хоць у асноўным тое, пра што марыла, адбылося, але з вялікімі стратамі ўнутры... Так, знешне прэм'ера нібыта адбылася — у дваццаць гадоў. Але потым быў перыяд, якога я нікому не пажадаю. Гэта быў у поўным сэнсе накдаўн...

***— Гэта пасля «Карнавальнай ночы»?***

— Ну, мой дарагі, сямнаццаць гадоў не працаваць! І існаваць амаль па-жабрацку... Я думаю, гэта страшна, праўда? І перажыць гэта ўсё, і падняцца... А потым была «перабудова». Гэта яшчэ адзін этап у жыцці, калі ты зноў выкінуты, калі ўсе выкінуты... Таму мне цяжка сказаць: пазайздросціла б я сабе? Проста я думаю, што ў гэтую прафесію не варта ісці, калі не гатовы да такіх вось накдаўнаў, да пажараў і войнаў, да абстрэлаў і раненняў. Да суіцыду, калі хочаце.

### «Адамовіч — святы чалавек для мяне»

Наступным разам мы размаўлялі праз год. І нагадай для гэтага стаў аўтограф актрысы на яе кнізе «Моё взрослое детство», які паказала мне дачка Алеся Адамовіча спадарыня Наталля: «Дорогой Алесь! Чувствую к Вам признательность за терпение (если её можно «чувствовать»... Но Вы же знаете, что я тёмная), уважение, тепло и нежность. А что же ещё? А больше ничa-во-о-о! Теперь для меня «ничаво» звучит совсем по-другому. Плохо на душе — «ничаво», устала или обидел кто — а как в войну нас обижали, как голодали, как уставали... И опять же — «ничаво». Вы, наверное, ещё на съезде писателей (сегодня 13 декабря), так что нажимаю кнопку первой — Вы приезжаете в Белоруссию, а книжка Вас ждёт. Ваша поклонница — Люся Гурченко. 1985 г.»

Мы даволі доўга гаварылі з Людмілай Маркаўнай па тэлефоне (між іншым, тады яна і патлумачыла, што «ничаво» з яе дарчага надпісу — гэта любімае слова Адамовіча), але тая гутарка не была апублікавана. **Цяпер друкуецца ўпершыню.**

— Мы разам былі ў складзе савецкай дэлегацыі ў Югаславіі, — прыгадвала Людміла Маркаўна. — Адамовіч выступаў вельмі цікава і рэзка. Рэзка — у сэнсе без згладжвання: маўляў, ах, як усё добра! як усё выдатна! Гэта ж быў 1985 год. І якія нам тады задавалі пытанні? — пра савецкі рэжым у Югаславіі. Югаславы не вельмі добра да нас ставіліся, можна сказаць, без дыпламатыі. І трэба было абараняць краіну. А пасля «перабудовы» ўсё «абламалася», і абараняць ужо не было чаго. І калі іншыя прамоўцы, унікаючы прамых адказаў, казалі агульнымі словамі, то ў Адамовіча ўсё было рэзка і дакладна. Гэта быў неардынарны чалавек, з вострым поглядам на ўсё...

Паміж намі ўзнікла добрае кароткачасовае таварыска-мужчынскае сяброўства. Мы і снедаць імкнуліся разам: то ён сядаў да мяне за столік, то я да яго. Мы выдатна разумелі адзін аднаго, нам было цікава... Мы вельмі шмат гаварылі пра вайну. Я саромелася таго, што, можа, казала пра вайну нешта такое... а ён так на мяне глядзеў... Я пра Харкаў распавядала (Л. Гурчанка нарадзілася ў Харкаве. — С. Ш.), пра свае ўражанні ад Беларусі, якую моцна люблю, таму што менавіта Беларусь першай прыняла ўдар падчас вайны. І Хатынь з яе званамі — усё гэта для мяне вельмі блізка. А Адамовіч апынуўся ў сярэдзіне, у сарцавіне гэтага майго беларускага ваеннага болю... Ён — святы чалавек для мяне з гэтай ваеннай тэмай.

Пазней я падарыла яму сваю кнігу. Я рэдка дару свае кнігі. Калі аўтографы просяць — калі ласка, а кнігі — амаль нікому... Потым Адамовіч даслаў ліст, у якім пісаў: «Вы павінны зрабіць нешта такое адкрытае і шчырае, што мужчына не ў стане зрабіць — толькі жанчына». Памятаю, я вельмі здзівілася гэтаму...

Увогуле, мне цяжка ўспамінаць, я перaтрэсла ўсю сваю памяць, бо гэта было так даўно...



## 23 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК



**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**11.00** 90 секунд.
**11.40** Лірычная камедыя «Хачу замуж».
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.40** Меладрама «Матуля мая».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.00** 90 секунд.
**15.55** Меладрама «Матуля мая».
**17.40** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.35** Навіны.
**23.55** Дзень спорту.
**00.00** Лірычная камедыя «Хачу замуж».



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** Час пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**18.55** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Справа прынцыпу.
**22.15** Мастацкі фільм «Арэлі».
**23.50** Мастацкі фільм «Оптам танней-2».
**01.20** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.25** «Вялікі сняданак».
**10.00** «Батальён памяці».
**10.40** Званая вячэра.
**11.30** «24 гадзіны».
**11.35** Сямейныя драмы.
**12.30** Не хлусі мне!
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Мае цудоўныя..
**14.45** Такі лёс.
**15.30** Дакументальны праект.
**15.10** Іншая краіна.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Вялікі горад.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.00** Сталічныя падрабязнасці.
**20.15** «Ваенная таямніца».
**20.55** «СТБ спорт».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Нябачная».



**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў Украіна.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** Серыял «Сябры анёлаў».
**11.25** Азбука густу.
**12.05** Панаехалі.
**13.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда-2» (Расія).
**15.55** Разбуральнікі міфаў.
**17.00** Перазарузка.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**21.35** КЕНА.
**22.15** «Арол і рэшка». Пазнавальнае стайл-шоў Украіна.
**23.10** Рэпарцёр.
**23.55** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.40** Серыял «У эфіры».



**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Дон Кіхот». Драма (СССР, 1957 г.).
**09.55** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**10.45** «Наперад у мінулае».
**11.15** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**11.50** «Музеі Беларусі». Мемарыяльны музей Героя Савецкага Саюза К.С.Заслонава.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.30** «Размаўляем па-беларуску».
**12.35** «Лісты мёртвага чалавека». Фантастычная драма (СССР, 1986 г.).
**14.00** «Непадсудны». Псіхалагічная драма (СССР, 1969 г.).
**15.25** «Калейдаскоп».
**15.40** «Размаўляем па-беларуску».
**15.45** «Завяшчанне прафесара Доўэля». Фантастычная драма (СССР, 1984 г.).
**17.15** «Кінагерой. Век рускай містыфікацыі». Навукова-папулярны фільм.
**18.10** «Адзіноцтва ў сетцы». Рамантычная драма (Польша, 2006 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.35** «Таму што кахаю». Кінааповесць (СССР, 1974 г.).
**23.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**23.25** «Сіняя-сіняя». Тэлеспектакль паводле павядання У.Караткевіча.
**00.15** «Калейдаскоп».
**00.30** «Геапалітыка: свет за тыдзень».



**07.30** PRO спорт. Вынікі.
**07.40** Баскетбол. НБА. Кліперс - Таронта.
**09.20** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**11.05** Хакей. КХЛ. Віцязь - Дынама.
**13.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Тотэнхэм - Вэст Хэм.
**14.55** Тэквандо. Адкрыты кубак СНД.
**17.00** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**18.45** PRO спорт. Навіны.
**18.55** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - Татран.
**20.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.00** Мотафрыстайл.
**23.00** Еўрапейскі покерны тур.
**23.55** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.



**07.00** ПраСвет.
**07.35** Зона «Свабоды».
**08.10** Форум (ток-шоу): Будзьма беларусамі!
**08.50** Два на два (тэледыскусія): Якою будзе Беларусь цягам наступных 5 гадоў кіравання Лукашэнкі?
**09.25** Туга па імперы, д/ф.
**10.20** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Агінскага і Залесся.
**10.30** Мова нанова: Заходняя Беларусь. Паланізмы.
**10.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.25** ПраСвет.
**12.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**12.35** 1050 дзён самоты, д/ф.
**13.10** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 1.
**14.00** Кінаклуб: «Зімовая костка».
**14.15** Зімовая костка, м/ф.
**15.50** Сведкі.
**16.05** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**16.55** Баба, Ваня і каза, д/ф.
**17.10** Пра любоў: Іра, д/ф.
**17.35** Пасха Хрыстова, д/ф.
**17.50** Мова нанова: Заходняя Беларусь. Паланізмы.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.45** Форум (ток-шоу): Будзьма Беларусамі!
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Асабісты капітал.
**22.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**22.30** Кінаклуб: «Зімовая костка».
**22.40** Зімовая костка, м/ф.

## 24 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК



**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Буйным планам.
**22.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.05** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.50** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Таццы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Гістарычная драма «Вялікая».
**22.50** Мастацкі фільм «3 жанчыны».
**01.05** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Спатканне маёй мары».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Званая вячэра.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Мае цудоўныя..».
**15.00** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Тэрыторыя памылкі.
**22.00** Глядзецъ усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Халасцякі». Серыял.
**01.05** «На тым жа месцы ў той жа час».



**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** Капейка ў капейку.
**10.40** Трылер «Закрытая школа».
**11.45** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.30** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**13.35** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Пульс.
**18.15** Адзін дзень з жыцця.
**18.35** Усёзнайка.
**18.50** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**19.45** Час футболу.
**19.55** Футбол.
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.05** Тэлебарометр.
**22.15** Час футболу.
**22.45** Футбол.
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.45** Футбол.



**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Завяшчанне прафесара Доўэля». Фантастычная драма (СССР, 1984 г.).
**09.40** «Любімыя ВІА». Канцэрт з удзелам папулярных ВІА 70-х, 80-х гадоў.
**10.40** «Банкавы білет у мільён фунтаў стэрлінгаў». Рамантычная камедыя (Вялікабрытанія, 1953 г.).
**12.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці графіка Сямёна Геруса.
**12.35** «Таму што кахаю». Кінааповесць (СССР, 1974 г.).



**14.00** «Калейдаскоп».
**14.15** «Нізамі». Біяграфічны кінараман. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**16.25** «Гітара па крузе». Віктар Фёдараў-Вішнякоў, акцёр, заслужаны артыст Расіі, скрыпачка Таццяна Хазанава.
**17.20** «Паветраплавальнік». Біяграфічны фільм (СССР, 1975 г.).
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.05** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 1-я серыя (СССР, 1984 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Выпрабаванне». Фільм першы « Крэпасць». Дакументальны фільм.
**21.30** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 2-я серыя (СССР, 1984 г.).
**22.35** «Дыя@блог». «Пра мову».
**23.00** «Маці Урагана». Гістарычная драма (СССР, 1990 г.).
**00.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці графіка Сямёна Геруса.
**01.05** «Калейдаскоп».



**07.05** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**08.50** PRO спорт. Вынікі.
**09.15** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**10.55** Баскетбол. Жанчыны. Польшча - Беларусь.
**12.30** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - Татран.
**13.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**14.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Крыстал Палас - Сандэрлэнд.
**16.45** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**17.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**18.25** Спорт-кадр.
**18.50** PRO спорт. Навіны.
**18.55** Баскетбол. Кубак ФІБА.
**20.55** Авертайм.
**21.25** Хакей. Слован - Дынама.
**23.40** PRO спорт. Навіны.
**23.50** Еўрапейскі покерны тур.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Форум (ток-шоу): Будзьма беларусамі!
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.00** Генрых V, м/ф.
**13.10** Студыя «Белсат».
**13.30** Форум (ток-шоу): Будзьма беларусамі!
**14.10** Студыя «Белсат».
**16.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**16.45** Ратаўнікі, серыял.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Трафімчык і Андрэй Янушкевіч: Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**22.10** Танцы з Крышнам, рэпартаж, 2015 г., Беларусь.
**22.30** Баба, Ваня і каза, д/ф.
**22.45** Пра любоў: Іра, д/ф.
**23.10** Пасха Хрыстова, д/ф.
**23.30** Туга па імперы, д/ф.
**00.25** Студыя «Белсат».



## 25 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Нашы.
**19.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** Модны прысуд.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**16.20** КВЗ.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Мастацкі фільм «Закаханыя жанчыны».
**23.00** Мастацкі фільм «Чэ!».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінтшчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Кіроўца для Веры».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Званая вячэра.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Ежа багоў».
**14.50** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Мінтшчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Чалавек з дажджом у ботах».
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Халасцякі». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.35** Трылер «Закрытая школа».
**11.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.35** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**13.30** Разбуральнікі міфаў.
**14.35** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Адкрытае пытанне.
**18.25** Літаратар.
**18.40** Тай-аўт.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**21.25** Тэлебарометр.
**22.05** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**22.45** Футбол.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Палітычны дэтэктыў. 1-2 серыі (СССР, 1984 г.).
**10.25** «Выпрабаванне». Фільм першы «Крэпасць». Дакументальны фільм.
**10.55** «Маці Урагана». Гістарычная драма (СССР, 1990 г.).
**12.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака, карыкатурыста і кніжнага графіка Анатоля Волкава.
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.15** «Размаўляем па-беларуску».
**13.20** «Блага твары». Дакументальны фільм пра адраджэнне галоўнай святыні Беларусі Крыжа Еўфрасінні Полацкай.
**14.05** «Паветраплавальнік». Біяграфічны фільм (СССР, 1975 г.).
**15.35** «Славянскі базар-2012. Гала-канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі».
**17.20** «Банкавы білет у мільён фунтаў стэрлінгаў». Рамантычная камедыя (Вялікабрытанія, 1953 г.).
**18.45** «Калейдаскоп».
**19.00** «Размаўляем па-беларуску».
**19.05** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Палітычны дэтэктыў. 3-я серыя (СССР, 1984 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Выпрабаванне». Фільм другі «Ваенурач другога рангу». Дакументальны фільм.
**21.30** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Палітычны дэтэктыў. 4-я серыя (СССР, 1984 г.).
**22.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.00** «Яраслаўна, каралева Францыі». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1978 г.).
**00.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака, карыкатурыста і кніжнага графіка Анатоля Волкава.
**01.00** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.30** Баскетбол. НБА. Голдэн Стэйт - Лэйкерз.
**08.55** PRO спорт. Навіны.
**09.05** Козел пра футбол.
**09.20** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**11.05** Спорт-кадр.
**11.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. БАТЭ - Баер.
**13.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Барселона - Рома.
**15.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**18.15** PRO спорт. Навіны.
**18.25** Баскетбол. Беларусь - Бельгія.
**20.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. ЦСКА - Вольфсбрук.
**22.20** PRO спорт. Навіны.
**22.40** Футбол. Онлайн дня.

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 12.40** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**07.55** Студыя «Белсат».
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Трафімчык і Андрэй Янушкевіч: Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**10.40** Танцы з Крышнам, рэпартаж.
**11.00** Туга па імперыі, д/ф.
**11.55** Беларусы ў Польшчы.
**12.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.40** Студыя «Белсат».
**15.50** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Трафімчык і Андрэй Янушкевіч: Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**16.25** Танцы з Крышнам, рэпартаж.
**16.45** Баба, Ваня і каза, д/ф.
**17.00** Пра любоў: Іра, д/ф.
**17.25** Пасха Хрыстова, д/ф.
**17.40** Беларусы ў Польшчы.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні: Канстанцін Астрожскі і бітва пад Воршаю.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Маю правы (юрыдычная праграма).
**22.05** Чорным па белым: Дабрачыннасць у Беларусі: плён і патэнцыял.
**22.35** Форум (ток-шоў): Будзьма беларусамі!
**23.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.50** Парадокс, серыял.
**00.35** Студыя «Белсат».

## 26 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**00.35** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Неслужбовы раман.
**10.05** Камедыя «Службовы раман».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Трэба разабрацца.
**21.30** Мастацкі фільм «Закаханыя жанчыны».
**23.25** Мастацкі фільм «Прыгоды Форда Ферлейна».
**01.15** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінтшчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Чалавек з дажджом у ботах».
**10.05** Сардэчна паскардзіцца.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Мае цудоўныя...
**14.50** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Культурная сталіца». Брэст.
**17.25** «Мінтшчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Скрыжаванне».
**22.05** Глядзець усім!
**22.10** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Халасцякі». Серыял.
**01.10** «Таямніцы Чапман».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.00** Капейка ў капейку.
**10.25** Трылер «Закрытая школа».
**11.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.30** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.30** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.10** «Арол і рэшка. На краі свету». Забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**23.50** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.35** Серыял «У эфіры».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Палітычны дэтэктыў. 3-я і 4-я серыі (СССР, 1984 г.).
**10.30** «Выпрабаванне». Фільм другі «Ваенурач другога рангу». Дакументальны фільм.
**11.00** «Чорны замак Альшанскі». Гістарычны дэтэктыў. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1983 г.).
**13.10** «Сівая легенда Уладзіміра Караткевіча». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць пісьменніка.
**13.40** «Калейдаскоп».
**13.55** «Размаўляем па-беларуску».
**14.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Юрыя Семянякі.
**14.30** «Яраслаўна, каралева Францыі». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1978 г.).
**16.05** «Славянскі базар-2014». Надзея Кадышава і ансамбль «Золотое кольцо».
**17.30** «Сіла веры».
**18.00** «Калейдаскоп».
**18.15** «Размаўляем па-беларуску».
**18.25** «Неразгаданая таямніца». Навукова-папулярны фільм пра таямніцы мозгу.
**19.05** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Палітычны дэтэктыў. 5-я серыя (СССР, 1984 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Выпрабаванне». Фільм трэці «Ідзі і змагайся». Дакументальны фільм.
**21.30** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Палітычны дэтэктыў. 6-я серыя (СССР, 1984 г.).
**22.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.00** «Абарона Лужына». Драма (Вялікабрытанія-Францыя, 2000 г.).
**00.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Юрыя Семянякі.
**01.15** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Баскетбол. НБА. Х'юстан - Мэмфіс.
**09.40** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**10.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Ювентус - Манчэстэр Сіці.
**13.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**14.25** Баскетбол. Беларусь - Бельгія.
**16.05** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**17.50** Гандбол. Втдеожурнал.
**18.20** PRO спорт. Навіны.
**18.30** Час футболу.
**18.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Дынама - Вікторыя Плзень.
**21.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Лакаматыў - Спортынг.
**22.55** PRO спорт. Навіны.
**23.05** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Канстанцін Астрожскі і бітва пад Воршаю.
**07.55** Студыя «Белсат».
**10.10** Маю правы (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Дабрачыннасць у Беларусі: плён і патэнцыял.
**11.05** Парадокс, серыял.
**11.50** Форум (ток-шоў): Будзьма беларусамі!
**12.35** Студыя «Белсат».
**13.00** Асабісты капітал.
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Канстанцін Астрожскі і бітва пад Воршаю.
**13.35** Студыя «Белсат».
**15.45** Маю правы (юрыдычная праграма).
**16.10** Чорным па белым.
**16.40** 1050 дзён самоты, д/ф.
**17.15** Гісторыя пад знакам Пагоні: Канстанцін Астрожскі і бітва пад Воршаю.
**17.25** Форум (ток-шоў): Будзьма беларусамі!
**18.10** Танцы з Крышнам, рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Трафімчык і Андрэй Янушкевіч: Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**22.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.35** У пошуках царскіх скарбаў, д/ф.
**23.30** Студыя «Белсат».



## 27 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Крымінальная драма «Былая жонка» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).



**16.40** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.40** Зроблена ў Беларусі.
**18.00** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**20.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».



**21.00** Панарама.
**21.45** Зроблена ў Беларусі.
**21.55** Меладрама «Абмяняйцеся кольцамі».
**23.45** Навіны.
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Павадыр».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.05** Мой бізнэс.
**22.50** Што? Дзе? Калі?
**23.35** Легенды Live.
**00.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Скрыжаванне».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Мае цудоўныя..
**14.45** «Суперцешча для няўдачніка».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** М і Ж.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Міжнародная ліга КВЗ.
**22.10** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** На тым жа месцы ў той жа час.
**00.00** «Вялікая гульня». Покер.
**00.45** «Кашмар на вуліцы Вязаў - 3».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.00** Капейка ў капейку.
**10.30** Трылер «Закрытая школа».
**11.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.35** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.30** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).



**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.05** Баявік «Тры іксы-2».
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.15** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.45** Фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 5-6 серыі (СССР, 1984 г.).
**10.25** «Выпрабаванне». Фільм трэці «Ідзі і змагайся». Дакументальны фільм.
**10.55** «Абарона Лужына». Драма (Вялікабрытанія Францыя, 2000 г.).
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.55** «Размаўляем па-беларуску».
**13.00** «Славянскі базар-2013. Было каханне».
**14.20** «Пуцёўка ў жыццё». Драма (СССР, 1931 г.).



**15.50** «Сівая легенда Уладзіміра Караткевіча». Дакументальны фільм.
**16.20** «Чорны замак Альшанскі». Гістарычны дэтэктыў. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1983 г.).
**18.35** «Калейдаскоп».
**18.50** «Размаўляем па-беларуску».
**18.55** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 7-я серыя (СССР, 1984 г.).
**20.10** «Камертон». Заслужаны дзеяч Казахстана, акцёр, прадзюсар Армэн Асенаў.
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Выпрабаванне». Фільм чацвёрты «Плошча рабоў - тэрыторыя барацьбы». Дакументальны фільм.
**21.30** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 8-я серыя (СССР, 1984 г.).
**22.35** «Камертон». Заслужаны дзеяч Казахстана, акцёр, прадзюсар Армэн Асенаў.
**23.05** «Бывай, Гульсары!» Драма (Казахстан, 2008 г.).
**00.40** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**10.45** Баскетбол. Кубак ФІБА.
**12.25** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Лакаматыў - Спортынг.
**14.20** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Дынама - Вікторыя Плзень.
**16.25** Баскетбол. НБА. Х'юстан - Мэмфіс.
**18.25** Піт-стоп.
**18.55** PRO спорт. Навіны.
**19.00** Фактар сілы.
**19.30** Футбол. Ліга Еўропы. Агляд.
**20.25** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**20.55** Футбол. Відэачасопіс.
**21.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**21.55** PRO спорт. Навіны.
**22.05** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**23.05** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Трафімчык і Андрэй Янушкевіч: Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.35** Відзьмо-невідзьмо.
**11.05** Бядгашч ад золку да змяркання, д/ф.
**11.55** У пошуках царскіх скарбаў, д/ф.
**12.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Трафімчык і Андрэй Янушкевіч: Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**13.50** Студыя «Белсат».
**16.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**17.00** У пошуках царскіх скарбаў, д/ф.
**17.55** Чорным па белым: Дабрачыннасць у Беларусі: плён і патэнцыял.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Магдэбургскае права ў Беларусі.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** ПраСвет.
**22.20** Закаханы шпіён, д/ф.
**23.50** Рычард III, гіст. драма.
**01.35** Студыя «Белсат».

## 28 ЛІСТАПАДА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Існасць.
**07.15** Меладрама «Ня адпускай мяне».
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** Буйным планам.
**09.40** Трансфармацыя.
**10.15** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.20** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток шоў.
**11.25** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**13.10** Меладрама «Зімовы вальс».
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Краіна.
**15.45** Меладрама «Зімовы вальс».
**17.30** Вострасюжэтная драма «Даша».
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Ня адпускай мяне».
**00.55** Дзень спорту.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.30** Смак.
**11.05** Ідэальны рамонт.
**12.05** Разумніцы і разумнікі.
**12.50** Рэаліці-шоў «Аўтобус».
**13.35** Мастацкі фільм «Прыходзьце заўтра».
**15.15** Следства пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**17.20** Драма «Слон».
**18.50** Здабытак рэспублікі.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.35** Мастацкі фільм «Жыццё горшае за звычайнае».
**00.30** Камедыя «Бывай каханне».

### СТВ

**06.05** Міжнародная ліга КВЗ.
**07.55** Анфас.
**08.10** «Таямніцы Чапман».
**09.05** Сакрэтныя тэрыторыі.
**10.20** «Мінск і мінчане».
**11.55** «Салдаты 6».
**13.40** «Рыцар без даспехаў».
**15.35** Вадзіць па-руску.
**15.55** Вялікі горад.
**16.40** Наша справа.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.40** «Ходзяць чуткі».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** «Абсалютная ўлада».
**22.20** Дакументальны праект.
**00.45** «Рыцар без даспехаў».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**08.05** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**08.35** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**10.10** Азбука густу.
**10.45** Серыял «Прыгоды Дзіна».
**11.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**12.05** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**14.00** Капейка ў капейку.
**14.40** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**15.40** Гаспадар.
**18.00** Бітва экстрасэнсаў.
**19.50** «Панаехалі». Рэаліці-шоў.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Меладрама «Чужаземка».
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.20** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**00.15** Камедыйная Фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 7-я і 8-я серыі (СССР, 1984 г.).



**10.35** «Выпрабаванне». Фільм чацвёрты «Плошча рабоў - тэрыторыя барацьбы». Дакументальны фільм.
**11.05** «Бацька». Гераічная кінааповесць (СССР, 1971 г.).
**12.35** «Партызаны». Бацька Мінай.
**13.05** «Памяці кампазітара Нестара Сакалоўскага».
**13.35** «Калейдаскоп».
**13.50** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**14.20** «Бывай, Гульсары!» Драма (Казахстан, 2008 г.).
**16.00** «Камертон». Заслужаны дзеяч Казахстана, акцёр, прадзюсар Армэн Асенаў.
**16.30** «Забытая мелодыя для флейты». Меладрама. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1987 г.).
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.55** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 9-я серыя (СССР, 1984 г.).
**20.00** Леанід Млечын прадстаўляе. «Джэймс Бонд. Таямніца агента 007». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Дазвольце расказаць!». Амерыканскі гітарыст Стэнлі Джордан.
**21.15** «ТАСС упаўнаважаны заявіць…» Палітычны дэтэктыў. 10-я серыя (СССР, 1984 г.).
**22.20** «Выратуйце «Канкорд». Прыгодніцкая драма (Італія, 1979 г.).
**23.55** «Бард-парад».
**00.30** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.20** PRO спорт. Навіны.
**07.35** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**11.05** Баскетбол. НБА. Індыяна - Чыкага.
**15.10** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**15.40** Футбол. Агляд тура.
**16.30** Авертайм КХЛ.
**16.55** Хакей. КХЛ. Дынама - Адмірал.
**19.10** Авертайм КХЛ.
**19.20** Футбол. На шляху да ЧС-2018.
**19.55** Гандбол.
**21.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Лестэр - Манчэстар Юнайтэд.
**23.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Магдэбургскае права ў Беларусі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Ліс Леон, мультсерыял.
**10.20** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**10.25** Занатоўкі натураліста.
**10.35** Сонечная дзіда, серыял.
**11.05** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Трафімчык і Андрэй Янушкевіч: Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**11.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.55** Танцы з Крышнам, рэпартаж.
**12.15** Рычард III, гіст. драма.
**14.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.35** Закаханы шпіён, д/ф.
**16.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**16.50** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**17.40** Ратаўнікі, серыял.
**18.25** Загадкі беларускай гісторыі: Паміж Менкай і Нямігай.
**18.40** Галадамор. Жывыя, д/ф.
**19.55** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.35** Мова нанова: Што? Дзе? Калі?
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Людскія справы.
**21.45** Невядомая Беларусь: Уладзімір Караткевіч. Душа застанецца, д/ф.
**22.20** Чужая, м/ф.
**00.25** Відзьмо-невідзьмо.
**00.50** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.10** Студыя «Белсат».
**01.25** ПраСвет.
**02.05** Закаханы шпіён, д/ф.



## 29 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

**Беларусь 1**

**07.20** Меладрама «Ня адпускай мяне».
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Гісторыя рамонту.
**10.20** 50 рэцэптаў першага.
**11.05** XXL WOMAN TV.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны.
**12.35** Каробка перадач.
**13.10** Зона X.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Еўрабачанне. Вынікі тыдня.
**15.50** Меладрама «Абмяняйцеся кольцамі».
**17.40** Меладрама «Дачакацца кахання».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Практыкаванні ў цудоўным».

**НТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.15** Барахолка.
**13.10** Госці па нядзелях.
**14.10** Да 100-годдзя Канстанціна Сіманава. «Чакай і я вярнуся».
**15.10** Усе хіты.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Усе хіты.
**17.00** Цюцелька ў цюцельку.
**17.25** КВЗ. Кубак мэра Масквы.
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**23.05** Мастацкі фільм «Метад».

**СТВ**

**06.35** Камедыйны серыял «Афрамасквіч».
**07.25** Сардэчна паскардзіцца.
**07.45** Аўтапанарама.
**08.10** «Абсалютная ўлада».
**10.15** Чыстая праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 7».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Федра».
**15.40** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Край».
**19.30** Тыдзень.
**20.25** Ваенная таямніца.
**23.40** Дакументальны праект.
**00.15** «Федра».

**Беларусь 2**

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.05** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**10.05** «Арол і рэшка». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**11.10** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.10** Серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**13.45** Баявік «Тры іксы-2».
**15.40** Біятлон.
**16.45** Капейка ў капейку.
**17.25** Біятлон.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда 2» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.15** Хачу ў тэлевізар!
**23.30** Меладрама «Чужаземка».

**Беларусь 3**

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.45** «Размовы пра духоўнае».
**07.55** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**09.30** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Палітычны дэтэктыў. 9-я і 10 серыі (СССР, 1984 г.).
**11.45** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: Андрэй Лугін, Людміла Міцэвіч, Міхаіл Бараноўскі.
**12.25** «Калейдаскоп».
**12.40** «Размовы пра духоўнае».
**12.50** «Наперад у мінулае».
**13.20** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.15** «Музеі Беларусі». Аршанскі музей гісторыі і культуры горада. Аршанскі этнаграфічны музей «Млын».
**14.45** «Гітара па крузе». Канстанцін Арбенін, паэт, пісьменнік.
**15.35** «Залатое цяля». Камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1968 г.).
**18.25** «Калейдаскоп».
**18.40** «Размовы пра духоўнае».
**18.55** Прэм'ера. «Вачамі прывіду». Рамантычная драма. 1-я і 2-я серыі (Азербайджан, Расія, Францыя, 2010 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Неюбілейны вечар Ісаака і Максіма Дунаеўскіх». Канцэрт.
**21.55** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**23.30** Леанід Млечын прадстаўляе. «Джэймс Бонд. Таямніца агента 007». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**00.10** «Калейдаскоп».
**00.25** «Размовы пра духоўнае».
**00.40** Перерыв в вещании.

**Беларусь 5**

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**11.15** Баскетбол. НБА. Сан Антоніо - Атланта.
**12.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова - Татран.
**12.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі.
**14.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Тотэнхэм - Чэлсі.
**17.00** Авертайм.
**17.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**17.55** Гандбол Кубак ЕГФ. СКА - Хард.
**19.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Ліверпуль - Суёнсі.
**21.25** Канькабежны спорт. Кубак Беларусі.
**22.45** PRO спорт. Навіны.
**22.55** Хакей для ўсіх.
**23.35** Баскетбол. НБА. Кліпэрз - Мінесота.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Ліс Леон, мультсерыял.
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.00** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.15** Занатоўкі натураліста.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Гісторыя, якая выхоўвала ў беларусах комплексы.
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Загадкі беларускай гісторыі: Паміж Менкай і Нямігай.
**10.55** Ліс Леон, мультсерыял.
**11.00** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.05** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**11.20** Занатоўкі натураліста.
**11.30** Сонечная дзіда, серыял.
**12.00** Мова нанова: Што? Дзе? Калі?
**12.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.00** Галадамор. Жывыя, д/ф.
**14.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.45** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.20** Людскія справы.
**15.55** Чужая, м/ф.
**17.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** Пекін ад золку да змяркання, д/ф.
**19.05** Невядомая Беларусь: Уладзімір Караткевіч. Душа застанецца, д/ф.
**19.45** Сведкі: Антысавецкі самвыдат.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Забойства ў Сараеве, д/ф.
**21.55** Кінаклуб: «Для Элен».
**22.05** Для Элен, м/ф.
**23.40** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**00.25** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 2.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы Час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Увага! Змяніўся кошт падпіскі!

Паважаныя чытачы! На жаль, мы вымушаны павялічыць падпісны кошт. З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі **— 32 000** руб. Падпісны кошт **I квартала** 2016 года **— 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Всего ______
Кассир

# Ці трэба баяцца грузінаў?

Алег НОВІКАЎ

**Ключавыя пасады ва ўкраінскай палітычнай эліце ўсё часцей займаюць этнічныя грузіны. Дэсант з Каўказу выклікае неадназначныя ацэнкі сярод звычайных украінцаў. На гэтым, у сваю чаргу, спрабуе гуляць маскоўская прапаганда.**




Ва ўкраінскую вертыкаль прыйшлі таксама Гія Гецадзе, Джамбул Эбанаідзэ, Хатыя Шэлія

Фота www.rbc.ua

Яшчэ пару гадоў таму гістарычна зеніт грузінска-ўкраінскіх адносін прыходзіўся на часы Уладзіміра Манамаха, калі нейкі рэгіянальны князь заключыў шлюб з грузінскай прынцэсай. Той дынастычны шлюб — бледны цень на фоне цяперашняга ўздыму грузінска-ўкраінскай кааперацыі. З пачатку 2015 года ў першы дывізіён украінскай вертыкалі прыйшла кагорта былых грузінскіх чыноўнікаў, якія ў свой час зрабілі кар'еру ў адміністрацыі Міхаіла Саакашвілі.

Пералік грузінаў, якія атабарыліся ў выканаўчых органах Украіны, можна пачаць ад самога Саакашвілі, які з падачы Пятра Парашэнкі стаў губернатарам Адэскай вобласці. У грузінскім спісе таксама фігуруюць Эка Згуладзэ, прызначаная першым намеснікам міністра ўнутраных спраў, Хатыя Дэканаідзэ, кіраўнік Нацыянальнай паліцыі, намеснік генпракурора Давід Сакварэлідзэ, намеснік дырэктара антыкарупцыйнага бюро Гізо Углава і г.д.

З улікам таго, што ва Украіне пражываюць усяго 34 тысячы грузінаў (з іх 7 тысяч на сепаратысцкім Данбасе), грузінская квота ва ўкраінскай вертыкалі выглядае сапраўды фенаменальнай. Асабліва, калі ўзгадаць, што адзін з самых папулярных лозунгаў падчас Еўрамайдану гучаў: «Памятай, чужынец, — тут гаспадар украінец!»

Тым не менш прыход ва ўладу грузінаў быў сустрэты ўкраінскім грамадствам на ўра. Па-першае, майданаўскія СМІ зрабілі моцны піяр грузінскім рэформам. Па-другое, грузіны не былі звязаныя з мясцовымі алігархічнымі кланамі, якія, зразумела, не зацікаўленыя ў антыкарупцыйных рэформах, сацыяльных ліфтах, празрыстасці фінансавых схемаў і г.д. Нарэшце, усе грузінскія гастарбайтары былі пагалоўна людзьмі Саакашвілі, якога на радзіме чакае некалькі позываў у суд. Таму для Мішы ўкраінская эпапея стала магчымасцю аднавіць свой аўтарытэт.

«Прыцягваючы правераныя кадры, якія рэалізоўвалі рэформы ў Грузіі, а таксама збіраючы рэшткі ўкраінскай эліты, якія па розных прычынах не ўпісалася ў сістэму, Саакашвілі закладвае трывалы падмурак для далейшага стварэння сучаснай еўрапейскай палітычнай сілы, якая і будзе вызначаць вектар развіцця краіны ў бліжэйшыя гады», — пісала па слядах прызначэння Саакашвілі на пасаду губернатара выданне «Хвиля».

Але пакуль паўтору «грузінскага цуду» не атрымаўся. Гэта прызнае сам экс-прэзідэнт Грузіі: «Пры мне за два гады ў Грузіі ўзровень ценявой эканомікі скараціўся з 60 да 5%, а ва ўкраінскай вырас з 32 да 48%. Пры мне Грузія паднялася ў рэйтынгу сусветнай банка па прастаце вядзення бізнесу на 8-е месца, а Украіна пакуль толькі на 72-м. Пры мне рэйтынг успрымання карупцыі сярод суб'ектаў бізнесу скараціўся з 80 да 2%, а ва Украіне ў апошні час павялічыўся да 80%. Украіна, да майго вялікага шкадавання, апусцілася да ўзроўню горшых афрыканскіх паказчыкаў», — распавёў Міша пару тыдняў таму.

У прынцыпе, з улікам шэрагу фактараў, фіяска грузінскага дэсанту прагназавалася некаторымі паліталагамі з самага пачатку. Украіна, як вядома, — не Расія, аднак яна таксама і не Грузія. Тут іншы маштаб краіны, іншая палітычная культура, менталітэт, які мае свае рэгіянальныя варыяцыі. Плюс грузінскім легіянерам патрэбна валодаць мовай, каб не адбывалася проста анекдатычных казусаў. Так, на адным з пасяджэнняў Кабінета міністраў прэм'ер-міністру Арсенію Яцанюку давялося мабілізаваць усе свае моўныя здольнасці. Першую частку пасяджэння ён правёў на ўкраінскай мове. Пасля перайшоў на англійскую, паколькі сярод міністраў прысутнічаў грузін Аляксандр Квіташвілі, які па-ўкраінску не разумеў. Але тут яго не зразумелі ўжо ўкраінскія міністры, і Арсенію давялося пераходзіць на рускую.

> **з 2015 года ў першы дывізіён украінскай вертыкалі прыйшла кагорта грузінскіх чыноўнікаў, якія ў свой час зрабілі кар'еру ў адміністрацыі Міхаіла Саакашвілі**

Нарэшце, зламаць алігархічную структуру ўкраінскага социуму новаму рэжыму цалкам не ўдалося. Грузінскі экспедыцыйны корпус, што абавязаны пасадамі прэзідэнту-алігарху Парашэнку, паступова ангажаваўся ў міжалігархічныя войны і, як следства, стаў закладнікам рэйтынгу Кандытара (мянушка Парашэнкі). Падзенне даверу да Парашэнкі адбілася і на грузінскіх палітыках.

З грузінаў зараз ва Украіне не смяецца толькі лянівы. Напрыклад, словы дырэктара МУС Арсенія Авакава пра тое, што марудны ход рэформы МУС «выкліканы неабходнасцю падрыхтоўкі вялікай колькасці кваліфікаваных кадраў» быў пракаментаваны адным з дэмакратычных СМІ наступным чынам: «У Авакава закончыліся грузіны».

Намагаецца выкарыстоўваць антыпатыю да грузін-міністраў і прарасійская апазіцыя. Так, Васіль Волга, адзін з лідараў антымайданаўскай эміграцыі, піша: «Складваецца адчуванне, што ва Украіне рэалізуецца нейкі сакрэтны план пад назвай «ШВІЛІ». Нас, украінцаў, усё далей адсоўваюць ад нашай жа дзяржавы. Няўжо Парашэнка настолькі баіцца ўкраінскага народа, што вырашыў адгарадзіцца ад яго народам грузінскім?»

«Не думаю, што нас чакае выбух масавых антыгрузінскіх настрояў. У побыце, напрыклад, у Кіеве, ніякіх агрэсіўных выпадаў на адрас грузінаў я не чуў. Хутчэй за ўсё, гаворка пра канкрэтных міністраў, якіх успрымаюць як частку каманды Парашэнкі — Яцэнюка. Часта ўрад так і называюць — «грузіны». Аднак галоўная прычына расчаравання грузінскімі рэфарматарамі, думаецца, выкліканая не іх учынкамі, а навязанай СМІ ўстаноўкай на хуткую аддачу ад прыходу Саакашвілі і яго каманды. Грамадству ўвесь час прапануюць нейкія лёгкія, звязаныя з канкрэтнымі персонамі, магічныя формулы вырашэння глабальных праблемаў. На жаль, у людзей дасюль не выпрацаваўся імунітэт адносна такіх медыя-кампаній», — каментуе сітуацыю кіеўскі паліталог Юрый Палянін.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Анексія Крыма гарантавала Расіі доступ да базы яе Чарнаморскага флоту, размешчанай у крымскім Севастопалі, і цяпер Пуцін можа захацець паўтарыць гэты поспех з калінінградскім анклавам. Што яшчэ важней, у Калінінградзе размяшчаецца штаб расійскага Балтыйскага флоту. Многія баяцца, што Пуцін паспрабуе забяспечыць сабе транзітны калідор да Калінінграда праз Польшчу ці Літву пры падтрымцы свайго беларускага саюзніка Аляксандра Лукашэнкі.

**«The Washington Post» (ЗША)**

Рэальная стаўка ў гульні Захаду — нейтралітэт Беларусі, а зусім не нейкая размытая дэмакратызацыя. Мінску выразна прапанавана вызначыцца — па сутнасці, нейтралітэт азначае выхад з АДКБ і Саюзнай дзяржавы. Вашынгтон даў ясна зразумець, чаго ён хоча ад Беларусі. Мабыць, такая цана крэдыту ў 3–4 мільярды долараў, які так неабходны беларускай эканоміцы.

**RuBaltic.Ru (Расія)**

У Беларусі, як і ў Расіі, дарэчы, тая ж праблема. У пачатку 1990-х гадоў там спрабавалі ўкараніць варыянты «спадар» — «спадарыня», але яны не прыжыліся. Па-першае, па-беларуску ў большасці гарадоў і вёсак размаўляюць мала. Па-другое, шмат каму гэтая фармулёўка проста не спадабалася. А ветэраны, напрыклад, наогул успрынялі яе ў штыкі: такі варыянт ужываўся падчас акупацыі краіны. Словам, нейтральнага звароту не атрымалася. (...) У выніку па вуліцах ходзяць не містэры і міс, не мадам і месье, не гер і фраў, а асобы жаночага і мужчынскага полу.

**«Новое время» (Украіна)**

Цяжка сабе нават уявіць, як абвешчаны камандуючым гэтай сістэмай беларускі генерал (камандуючы аб'яднанымі ВПС і войскамі СПА Беларусі) можа аддаваць загады расійскім генералам і афіцэрам. Так што, падобна, усе «ключы» абяцанага механізму ваеннай арганізацыі Саюзнай дзяржавы будуць у адных руках і ў адным кабінеце – крамлёўскім. Там жа і будзе вызначацца, упэўненыя многія маскоўскія і іншыя эксперты, у якім стане (вайна ці мір) і з кім знаходзіцца расійска-беларуская Саюзная дзяржава.

**«Delfi» (Літва)**

Гібрыдная вайна ў першую чаргу — барацьба за настрой і свядомасць грамадзян дзяржавы ці дзяржаў, якія сталі ахвярай агрэсіі. Гістарычная памяць дапамагае Крамлю раскручваць прапагандысцкі махавік і сутыкаць паміж сабой розныя дзяржавы. Таму ў рыторыцы расійскіх СМІ, якія асвятлялі падзеі на Еўрамайдане і наступную анексію Крыма і канфлікт на Данбасе, пастаянна гучалі словы «фашысты» і «карнікі». Ці можа быць спакойнай у гэтай сітуацыі Беларусь, прэзідэнт якой Аляксандр Лукашэнка паказальна лаяльны Крамлю? Сумняваюся, паколькі логіка вядзення гібрыднай вайны не мае на ўвазе захаванне самастойнасці геапалітычных васалаў, якія знаходзяцца на ўтрыманні ў магутнага сюзерэна. І непатапляльнаму на першы погляд Бацьку варта было б задумацца пра шляхі адыходу з абдымкаў расійскага імперскага мядзведзя.

**«Экономические известия» (Украіна)**

Імкненне лідараў «беларускай дыяспары» пераняць украінскі вопыт у справе «захавання нацыянальна-культурных асаблівасцяў» не можа не насцярожваць. Як паказаў скандал з Бібліятэкай украінскай літаратуры ў Маскве, некаторыя прадстаўнікі «ўкраінскай дыяспары» прытрымліваюцца экстрэмісцкіх поглядаў і спрабуюць іх прапаведаваць сярод выхадцаў з Украіны, якія пражываюць у РФ. Як бачым, за шыльдай «беларускай дыяспары» хаваюцца актывісты, дзейнасць якіх зусім не адпавядае інтарэсам Расіі і рускага народа. Па гэтай прычыне актыўнасць «прафесійных беларусаў», з нашага пункту гледжання, павінна стаць аб'ектам пільнай увагі з боку Расійскай дзяржавы і рускай грамадзянскай супольнасці.

**«Baltnews» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАНАДА — ДАНІЯ. Вайны не будзе




Канада і Данія дамовіліся адносна лёсу арктычнага вострава Ханс (Hans), які знаходзіцца паміж дацкай Грэнландыяй і канадскім востравам Эльсмер. Доўгі час Атава і Капенгаген лічылі гэты востраў сваёй тэрыторыяй, што прыводзіла да ўзаемных дыпламатычных пікіровак і незвычайнай практыкі, калі час ад часу Ханс наведвалі вайсковыя караблі Даніі і Канады. Пасля прыбыцця на востраў яны па чарзе ўздымалі тут свае сцягі. Нарэшце на мінулым тыдні доўгая спрэчка вакол Ханса была вырашаная. Бакі дамовіліся, што востраў будзе знаходзіцца пад сумесным кіраваннем канадцаў і датчан. Кажучы юрыдычным тэрмінамі, ствараецца так званы condominium. Калі верыць спецыялістам па праву, апошні раз рашэнне пра condominium заключылі Францыя і Іспанія ў 1659 годзе, калі дамовіліся пра сумеснае кіраванне востравам, што знаходзіцца на франка-іспанскай памежнай рацэ.

**Паводле канадскай прэсы**

### УКРАІНА. Нашто кенійцам украінскія петыцыі?

Як вядома, ва Украіне прыкладна са жніўня працуе рэжым электронных петыцый на адрас прэзідэнта. Электроннае хадайніцтва разглядаецца кіраўніком дзяржавы пры ўмове, калі пад петыцыяй падпішацца не менш за 25 тысяч чалавек. Нованўведзенне паспела набыць папулярнасць сярод грамадскасці, у сувязі з чым 25 тысяч подпісаў петыцыі на сайце набіралі неаднаразова. Адным з самых яркіх прыкладаў стаў збор подпісаў пад петыцыяй у падтрымку свабоднага продажу зброі, а таксама з патрабаваннем адпраўкі Юліі Цімашэнка паслом у Гандурас. І вось зараз высвятляецца, што з тымі петыцыямі не ўсё так проста. Як сцвярджаюць адказныя за сайт, 89% трафіку петыцый на сайце прэзідэнта Украіны генеруюць карыстальнікі з Украіны, 5% — з Расіі, а 1% — з Кеніі. Так, 17 тысяч кенійцаў падтрымалі заклік аб змене правіл іспыту па англійскай мове ва ўкраінскіх школах. Каб захаваць праект, праграмісты распрацавалі новую версію апрацоўкі галасоў у падтрымку петыцый, якая пачала працаваць на мінулым тыдні.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. З Сейму выгналі д'ябла

Трыумф польскіх правых на парламенцкіх выбарах прывёў да з'яўлення ў будынку Сейму экзарцыстаў. Некалькі ксяндзоў прыйшлі ў парламент па запрашэнні дэпутата фракцыі «Аб'яднаныя правыя,» каб выгнаць д'ябла з кабінета №143. Справа ў тым, што гаспадаром гэтага кабінета доўгі час быў Януш Палікот — леваліберальны палітык, які зрабіў сабе імя як галоўны крытык існуючай ролі Касцёлу ў польскім грамадстве і сістэмы прэферэнцый для царквы. Пасля таго, як партыя Палікота на мінулых выбарах не здолела прайсці ў Сейм, кабінет даваліся вызваліць, каб сюды пераехаў новы гаспадар — дэпутат правых поглядаў. Выгнаннем д'ябла з былога кабінета Палікота працэдура не закончылася. На дзвярах пакою новы гаспадар размясціў вялікі крыж.

**Паводле польскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Альтэрнатыўная навука для альтэрнатыўнай краіны

З-за крызісу эмігрантаў Германія перажывае сапраўдны рэнесанс правага радыкалізму. Вядучая ў краіне правапапулісцкая партыя «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) дзякуючы крытыцы міграцыйнай палітыкі Меркель узняла свой рэйтынг да 7 працэнтаў. Аднак не толькі тэмай імігрантаў жыве партыйнае кіраўніцтва. Некалькі яго сяброў стварылі аргкамітэт Кангрэсу за альтэрнатыўную навуку, які павінен прайсці ў лютым 2016-га. Ужо вядомыя некаторыя выступоўцы і тэмы іх дакладаў, якія проста шакавалі грамадскасць. Па сутнасці, Кангрэс стане пляцоўкай для прыхільнікаў тэорыі змовы. Адзін з іх будзе распавядаць пра тое, што тэракт 9/11 у Нью-Ёрку падрыхтавала не «Аль-Каіда», а ЦРУ. Іншы — пра тое, што паток іміграантаў у Еўропу каардынуецца іншапланецянамі. У прынцыпе, гэта ўсё было б вартым смеху, калі б не імклівы рост папулярнасці «Альтэрнатывы для Германіі». У выпадку яе прыходу ў парламент некаторыя з агучаных вышэй тэмаў прагучаць і ў Бундэстагу, падрываючы прэстыж нямецкага парламентарызму. Праўда, магчыма, Кангрэс не адбудзецца. Жыхары маленькага гарадку, дзе яго планецца правесці, выступілі супраць прыезду альтэрнатыўных навукоўцаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Парыж: Загадкі пятніцы 13-га

**Французскі журналіст Аляксандр Чукаеў распавядае журналісту НЧ Алегу Новікаву пра некаторыя малавядомыя дэталі трагедыі 13 лістапада ў Парыжы і цяперашнюю сітуацыю ў краіне.**



Фота www.dr.dk


Фота www.birdinflight.com

***— Прэзідэнт Францыі Франсуа Аланд заявіў, што за тэрактамі ў Парыжы стаіць «Ісламская дзяржава», і абвясціў ёй вайну. Ці не паспяшаўся французскі гарант?***

— Трэба пачаць з таго, што вайна супраць ІД была абвешчаная яшчэ ўзімку пасля забойства журналістаў часопісу «Charle Hebdo». Аднак тады пра яе хутка забыліся. Зараз, быццам, робяцца больш рашучыя крокі, аднак у спецыялістаў гэта выклікае смех. Так, урад адрапартаваў, што скінуў на горад Ракка, сталіцу ІД, аж 20 бомбаў. Відавочна, што лезці ў Сірыю, дзе і без таго ўжо змагаюцца паміж сабой 46 груповак, Парыж не будзе. Вайна з ІД абмяжуецца пошукам тэрарыстаў унутры краіны. Такая стратэгія гуляе на руку прэзідэнту, якому зрабілі імідж слабага, бязвольнага палітыка. Цяпер у лідара партыі сацыялістаў ёсць шанец за кошт буйных паліцэйскіх хапуноў ненавісных ісламістаў трошкі палепшыць рэйтынг перад важнымі рэгіянальнымі выбарамі, якія па сутнасці адчыняюць прэзідэнцкую кампанію 2017-га.

***— Як спецслужбы маглі дапусціць правядзенне такога маштабнага тэракту, асабліва з улікам таго, што не так даўно яны прашляпілі напад на рэдакцыю «Charle Hebdo»?***

— Наша паліцэйская машына, сапраўды, амаль бяссільныя. Калі верыць статыстыцы, у Францыі каля 11 тысяч сімпатызантаў ІД. Галоўным чынам гэта беспрацоўная арабская моладзь. Сацыяльная дапамога для такіх, як яны, складае каля 450 еўра на месяц, што вельмі мала. Каб выжыць, яны хутка сыходзяць у крымінал. Сталыя канфлікты з паліцыяй выклікаюць сімпатыю да ўсіх ворагаў сістэмы, і, натуральна, ІД. Найбольш неадэкватныя едуць у Сірыю і завязваюць кантакты з цэнтрамі джыхадыстаў. Гэтых турыстаў яшчэ можна неяк вылічыць, аднак прыцягнуць да адказнасці цяжка. Таксама цяжка сачыць за іх перапіскай у сецціве. Апошнім часам камунікацыя ідзе ў рамках анлайн-гульняў, дзе гульцы могуць размаўляюць паміж сабой. Пакуль нашы спецыялісты не прыдумалі, як кантраляваць гэтыя размовы. Увогуле, такіх гульняў шмат, і ўдзельнічаць у іх могуць па некалькі тысяч ананімаў адначасова.

***— Якія матывы прымусілі гэтых людзей пайсці на тэракты, асабліва з улікам таго, што яны падрывалі сябе?***

— Цяжка сказаць, у тым ліку таму, што іх учынкі абсалютна не падобныя на паводзіны шахідаў. Напрыклад, бельгійская групоўка абсалютна не збіралася ахвяроўваць сабою. Яны прыехалі ў Парыж выключна, каб пастраляць па мінаках і кліентах кафэ. Паводзіны камікадзе таксама вельмі дзіўныя. Адзін з іх проста доўга гуляе вакол плошчы Нацыі, каб пасля падарваць сябе. Тыя, што не трапілі на стадыён, чамусьці вырашаюць узарваць сябе дастаткова далёка ад натоўпу. Хаця аб'ектаў для атакі вакол стадыёну было шмат — напрыклад, шэрагі аўтазакаў

**Не зразумела, чаму спецназ так доўга (прыкладна паўтары гадзіны) вёў перамовы, даючы тэрарыстам час для забойства**

і аўтобусаў са спецназам, які ненавідзіць уся шпана ў бедных прыгарадах. Таму адразу ўзнікла версія, што бомбы ўзарваў нехта звонку праз адпаведны радыёсігнал. Ёсць думка, што тыя хлопцы былі проста кур'ерамі, якія мусілі даставіць выбуховыя матэрыялы за грошы ў нейкае месца. ІД, як правіла, аплачвае такія аперацыі.

***— Аднак яшчэ быў клуб «Bataclan», дзе і загінула больш за ўсё людзей.***

— Там таксама шмат нелагічнага. Незразумела, якім чынам група ўзброеных людзей спакойна прайшла ў клуб, пасля таго, як нейкі час гуляла па кварталу. Пасля тэрактаў 1995-га ў Парыжы любая такая ўстанова мае ахову, што, як правіла, набіраецца з былых сілавікоў. Не зразумела, чаму спецназ так доўга (прыкладна паўтары гадзіны) вёў перамовы, даючы тэрарыстам час для забойства прысутных у памяшканні. Самі яны ў гэты час то чыталі заклaднікам лекцыі, то забівалі іх, то шукалі параненых... Такое ўражанне, што гэта былі нейкія «пінгвіны» (так у нас называюць людзей пад наркотыкамі). Адным словам, следству ёсць над чым папрацаваць. І галоўная нестасоўка: усе акцыі злачынцы праводзілі ў бедных кварталах. Іх галоўнымі ахвярамі ў выніку становяцца такія ж, як яны, бедныя — арабы і чарнаскурыя або моладзь. Гэта супярэчыць прапагандзе ІД, якая намагаецца выяўляць сябе абаронцам менавіта сацыяльна маргіналізаваных мусульман. Тое, што былі забітыя звычайныя людзі, вельмі моцна б'е па іміджу ісламістаў.

***— Франсуа Аланд адразу пасля тэрактаў абвясціў надзвычайнае становішча. Як гэта адаб'ецца на французах?***

— Наўрад ці гэта будзе тычыцца звычайных французаў. Пацерпяць іміграанты, якіх цяпер можна арыштаваць адразу на мяжы і дэпартаваць. Аланд таксама абяцае зачыняць мячэці, дзе гучаць радыкальныя пропаведзі. Сілавікі атрымалі права без санкцыі пракурора рабіцьператрусы і г.д. Пакуль цяжка сказаць, які будзе вынік, акрамя дакладнага росту выдаткаў на МУС. У прынцыпе, грамадству пакуль гэта абыякава. Французы не могуць да канца зразумець, што адбылося. Не могуць зразумець, чаму стала магчымым, што ў Парыж прыехалі нейкія адмарозкі і сталі забіваць людзей на вуліцах.



Фота www.merkur.de

# Апошні курыльшчык Германіі

**Нямецкі рух праціўнікаў забароны тытуню панёс вялікую страту. 10 лістапада ва ўзросце 95 гадоў пайшоў з жыцця Гельмут Шміт, былы канцлер ФРГ, які таксама быў хадзячым сімвалам барацьбы курыльшчыкаў за свае правы.**

Гады канцлерства Шміта (1974–1982) прыйшліся на час, калі ўся еўрапейская эканоміка была на ўзлёце. Акрамя таго, тая эпоха супала з пацяпленнем у адносінах з Усходнім блокам, дзякуючы чаму заходняе грамадства забылася пра паранойю наконт пагрозы ядзернай вайны, пагрузіўшыся ў бесклапотнае спажыванне. Таму не дзіўна, што, паводле сацыялагічных апытанняў, Шміт застаўся ў народнай памяці самым папулярным канцлерам у гісторыі ФРГ.

Аднак асоба Гельмута Шміта выклікае не толькі настальгію па тлустых і бяспечных 1970-х гадах. Нельга ўявіць сабе яго без цыгарэты. Нябожчык быў фанатам нікаціну. Мала таго, што ён шмат паліў, ён таксама рабіў гэта публічна — падчас пасяджэння ўраду, якія трансляваліі на ўсю краіну, на розных шоў і інтэрв'ю, і нават у час візітаў у тэатры і кіно. Гельмут Шміт паліў з 15 гадоў і практычна да апошняга дня жыцця.

У 1970-я і нават 1980-я гады на яго кепскую звычку глядзелі скрозь пальцы. Пакуль у грамадстве не даведаліся пра такую небяспечную з'яву, як «пасіўнае курэнне». Як следства, грамадства стала больш крытычна ставіцца да таго, як Шміт дэманстратыўна пускае дым. Ціск на экс-канцлера асабліва вырас напрыканцы 2000-х, пасля таго, як Германія пачала адаптоўваць так званыя «антытытунёвыя» законы. Прыкладна на працягу 3–5 гадоў быў прыняты цэлы блок цыркуляраў, які забараніў курэнне не толькі ў публічных месцах, аднак таксама ў гастраномічных установах.

Нельга сказаць, што курыльшчыкі пасіўна глядзелі на тое, як іх пазбаўляюць любімай звычкі. Быў агучаны тэзіс, што забарона табаку — дыскрымінацыя грамадзян. Пры гэтым праціўнікі антытытунёвага заканадаўства ахвотна робяць праекцыі на антытытунёвыя законы ў нацысцкай Германіі. Як вядома, Гітлер і сам не паліў, і патрабаваў гэтага ад усіх немцаў. Пры нацыстах Германія стала Меккай сусветнага антытытунёвага руху. Тады справа не абмяжоўвалася татальнай забаронай курэння ў транспарце, забаронай рэкламы цыгарэт, уразання табачнага пайку для жаўнераў. На даследаванні негатыўных наступстваў палення былі выдзеленыя проста каласальныя грошы, аж да стварэння асобнага інстытуту. У тым ліку пры нацыстах дзейнічала табу на цыгарэты ў кафэ і рэстаранах, на чым актыўна сёння спекулююць апаненты антытытунёвых законаў.

Сінхронна прыняццю законаў супраць курэння ў Германіі паўсталі шырокія грамадзянскія ініцыятывы курыльшчыкаў. Напрыклад, у зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ў такую ініцыятыву запісалася каля 4 тысяч чалавек. У Баварыі ў 2010 годзе была сабраная неабходная колькасць подпісаў для рэферэндуму наконт вольных ад табаку зон у рэстаранах. Прапанову падчас галасавання падтрымала больш за 60 працэнтаў тых, хто прыйшоў на плебісцыце, аднак дасюль улады ігнаруюць вынікі галасавання. Не прайшлі міма феномену руху курыльшчыкаў і папулісцкія партыі. Так, секцыя ксенафобскай і еўрафобскай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ў 2013 годзе прыняла рэзалюцыю «Не крыміналізацыі курыльшчыкаў!».

Нефармальным сімвалам руху курыльшчыкаў фактычна і быў Гельмут Шміт, які паліў дзе заўгодна і калі пажадае. Прыкладам таму — адна з табачных дэманстрацый у Дзюсельдорфе, удзельнікі якой адзелі маскі былога канцлера. Сам Шміт, праўда, на падобныя акцыі не выходзіў, аднак з самага пачатку атакаваў крыжовы паход супраць тытуню. Па яго словах, каскад антытытунёвых законаў — «часовая мода, пра якую праз 20 гадоў усе забудуць».

Акрамя таго, Шміт працягнуў практыку палення на публіцы, што часта выклікала канфлікты з законам. Напрыклад, экс-канцлера неяк спрабавалі затрымаць, пасля таго як ён запаліў цыгарэту ў адным з тэатраў Гамбурга, прычым падчас імпрэзы. У адказ Шміт заявіў, што тэатр прадаў яму крэсла ў зале на час спектаклю, і ён можа рабіць на тым крэсле ўсё, што яму ўздумаецца. З улікам аўтарытэту і салідная ўзросту былога канцлера вырашылі пакінуць у спакоі. Серыя падобных інцыдэнтаў стварыла Гельмуту Шміту рэнаме — «апошні курыльшчык у ФРГ, які мае права парушаць антытытунёвае заканадаўства». Натуральна, былі і крытыкі такіх паводзінаў Шміта, паколькі ён такім чынам парушаў этычны кодэкс нямецкага палітыка, які павінен быць прыкладам для грамадства.

Смерць Гельмута Шміта, безумоўна, аслабіць пазіцыі тытунёвага руху. Хаця спекуляцыі на фігуры Шміта працягнуцца. Напрыклад, на сайтах курыльшчыкаў зараз мусіруецца думка — маўляў, тое, што Гельмут працягваў паліць ва ўзросце больш за 90 гадоў, даказвае, што цыгарэты ўвогуле не ўяўляюць пагрозу для арганізма. Падлічана, што за 80 гадоў палення па 2 пачкі ў дзень Шміт выкурыў 1.168.000 цыгарэт. Феномен даўгалецця Шміта даўно цікавіў медыкаў, аднак дакладнага адказу яны пакуль не далі. Тым не менш, паўтараць эксперымент Шміта яны не раяць. Замест гэтага прапануюць пераняць яго іншую звычку. Гельмут Шміт быў яшчэ і фанатам прэсы. Штодня экс-канцлер чытаў па дзесяць газет.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Георгій Маргвелашвілі



Прэзідэнту Грузіі пагражае прымусовае высяленне з рэзідэнцыі — Аўлабарскага палаца, пабудаванага падчас прэзідэнцтва Міхаіла Саакашвілі. Вызваліць рэзідэнцыю ад Маргвелашвілі запатрабаваў заснавальнік кіруючай кааліцыі «Грузінская мара» мільярдэр Бідзіна Іванішвілі, які лічыцца ў Тбілісі нефармальным кіраўніком урада. Мільярдэр матываваў сваё патрабаванне тым, што палац улятае бюджэту ў капейку: на яго ўжо пайшло 10 мільёнаў лары ($ 4,1 мільёна). Іванішвілі таксама нагадаў, што Георгій Маргвелашвілі да абрання называў гэты будынак «гняздом распусты». Аднак праз тры месяцы пасля прэзідэнцкіх выбараў Георгій Маргвелашвілі вырашыў пераехаць у Аўлабарскі палац, і зараз пакідаць яго ўпарта не жадае. Чым скончыцца гэты канфлікт, цяжкая прагназаваць. Справа не толькі ў тым, што выгнаць Маргвелашвілі гвалтоўна немагчыма, бо гэта цягне на канстытуцыйнае злачынства, а закон не вызначае канкрэтнае месца, дзе павінен жыць і працаваць прэзідэнт. Акрамя таго, у краіне імкліва расце незадаволенасць рэжымам «Грузінскай марай», і Маргвелашвілі, які сварыцца з Іванішвілі, нявольна становіцца адным з лідарам супраціву. Між тым, журналісты прагназуюць, што ў бліжэйшы час прэзідэнту за даўгі адключаць святло.

### Аун Сан Су Чжы



Апазіцыйная «Нацыянальная ліга за дэмакратыю» (НЛД), лідарам якой з'яўляецца Аун Сан Су Чжы, перамагла кіручую Партыю саюзнай салідарнасці і атрымала пераважную большасць на парламенцкіх выбарах М'янмы. Трэба адзначыць, што гэта першыя за 53 гады выбары, у якіх удзельнічала апазіцыя. Выбары ў М'янме прайшлі без масавых парушэнняў і могуць прывесці да доўгачаканых пераменаў у краіне, якая жыла ва ўмовах ваеннага праўлення амаль 20 гадоў. Аднак ёсць шмат пытанняў наконт таго, што будзе далей. Па-першае, сама 70-гадовая матухна Су, як яе называюць у народзе, не можа стаць прэзідэнтам. Канстытуцыя ўтрымлівае забарону займаць гэту пасаду любой асобе, у каго ёсць блізкія сваякі — замежнікі. Аун Сан Су Чжы, між тым, была замужам за англічанінам. Яе двое сыноў — таксама брытанскія грамадзяне. Другая праблема — пазіцыя Пекіна, які доўгі час фліртаваў з дыктатурай. Адсюль і актывізацыя пракітайскіх сепаратыстаў у некаторых аўтаномных раёнах. Ёсць версія, што КНР зацікаўлена ў тым, каб рукамі Су паслабіць вайсковую вертыкаль і зноў спрабаваць стварацъ пятую калону. Нарэшце, усе чакаюць выбуху палітычнай турбулентнасці ў рэгіёне з-за сітуацыі ў Тайландзе, дзе смерць нязменнага з канца 1946-га караля Рамы Дзявятага (нарадзіўся ў 1927 годзе) з'яўляецца справай часу, а яго пераемнік вельмі не папулярны ў народзе.

### Даніэль Артэга



Прэзідэнт Нікарагуа ад левага «Фронту нацыянальнага вызвалення» вымушаны змагацца з нелегаламі, як і шматлікія еўрапейскія ўрады. З той розніцай, што нікарагуанскую мяжу атакуюць не арабы, а кубінцы. Ходзяць чуткі, што з-за пачатку пацяплення кубінска-амерыканскіх адносін Вашынгтон хутка скасуе закон, паводле якога любы кубінец, які дабраўся да ЗША, аўтаматычна атрымлівае права на прытулак. Гэта падштурхнула кубінцаў з усёй Лацінскай Амерыкі прабірацца на поўнач у накірунку Злучаных Штатаў. На шляху нечакана аказалася маленькая, аднак ганарлівая Нікарагуа, якая адмовіла мігрантам у транзіце. Больш таго, на мінулым тыдні нікарагуанцы дэпартавалі 1100 кубінскіх грамадзян на тэрыторыю Коста-Рыка, адкуль тыя прыйшлі ў Нікарагуа. Адначасова Артэга назваў коста-рыканскую міграцыйную палітыку «замахам на нікарагуанскі суверэнітэт». У сваю чаргу, Коста-Рыка кажа пра тое, што наяўнасць мігрантаў у краіне пагражае гуманітарным крызісам. Эмоцыі напаліліся настолькі, што па загаду Артэгі да коста-рыканскай мяжы рушыла нікарагуанская армія.


Чыўнэ Сугіхара


Сям'я Чыўнэ Сугіхары


Будынак консульства, 1939 год

# Японскі консул, які ратаваў

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Адным з праведнікаў народаў свету з'яўляецца японскі дыпламат Чыўнэ Сугіхара. Яго імя не вельмі вядомае ў Беларусі, аднак на пачатку Другой сусветнай вайны менавіта Чыўнэ Сугіхара ўратаваў тысячы жыццяў польскіх грамадзян, сярод якіх былі і ўраджэнцы Беларусі. Дапамагаў японцу галандскі дыпламат Ян Звартэндэйк.**


Ян Звартэндэйк

## Кар'ера

Чыўнэ Сугіхара нарадзіўся ў небагатай сям'і ў 1900 годзе ў прэфектуры Гіфу. Яго бацька хацеў, каб сын стаў урачом, аднак Чыўнэ наўмысна заваліў экзамен у медыцынскую акадэмію і ў 1918 годзе паступіў ва Універсітэт Васэда, дзе вывучаў англійскую літаратуру. Пазней ён паступіў на працу ў Міністэрства замежных спраў. У японскім дыпламатычным прадстаўніцтве ў Харбіне Сугіхара актыўна заняўся вывучэннем рускай мовы і культуры. Пазней была служба ў войску. У 1924 годзе японец вярнуўся да працы ў амбасадзе Японскай імперыі ў Харбіне. Там ён прыняў праваслаўе і нават ажаніўся з рускай эмігранткай Клаўдзіяй Апалонавай. Аднак у 1935 годзе дыпламат з ёй развёўся і ажаніўся з японкай Юкіка Кікучы. Чыўнэ Сугіхара працаваў у МЗС Маньчжоў-Го і нават удзельнічаў у перамовах з СССР наконт пакупкі Кітайска-Усходняй чыгуначнай дарогі.

У 1936–1938 гадах Сугіхара працаваў у дыпламатычных прадстаўніцтвах у Маскве і Хельсінкі, а ўвесну 1939 года ў якасці віцэ-консула Японскай імперыі быў накіраваны ў тагачасную сталіцу Літвы горад Коўна. Гэтае прызначэнне мела глыбінны сэнс. У Токіа, безумоўна, ведалі пра планы Трэцяга Рэйху ў адносінах да Польшчы, таму Японіі быў патрэбны дадатковы дасведчаны выведнік у рэгіёне.

## Паміж молатам і кавадлам

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Ужо ў першыя яе тыдні вялікая колькасць польскіх грамадзян пацягнулася ва ўсходнія ваяводствы (Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну). Аднак хутка і туды прыйшла вайна. Бежанцы і жыхары Заходняй Беларусі, сярод якіх было шмат габрэяў, спрабавалі ўратавацца ў нейтральных краінах. Тычылася гэта, перш за ўсё, краін Балтыі. Літоўская рэспубліка ўсталявала дыпламатычныя зносіны з Польшчай толькі ў 1938 годзе. У першыя дні нападу Германіі на Польшчу ўлады апошняй баяліся ўдару з боку літоўцаў, аднак яго не адбылося. Больш за тое, Літва пачала прапускаць праз сваю мяжу польскіх бежанцаў і інтэрнаваць жаўнераў і афіцэраў Войска Польскага.

Яшчэ да пачатку вайны Чыўнэ Сугіхара ўступіў у кантакт з польскай выведкай. У гэтым не было нічога дзіўнага, бо ў міжваеннае дваццацігоддзе генштабы дзвюх краін актыўна супрацоўнічалі, і менавіта польскія шыфравальшчыкі, між іншым, дапамагалі японцам у расшыфроўцы перахопленых савецкіх радыёдэпеш.

У кастрычніку 1939 года савецкія ўлады перадалі Віленскі край Літве. Аднак летам 1940 года Літву прымусова далучылі да СССР. Польскія грамадзяне, якія знаходзіліся на літоўскай тэрыторыі, зноў апынуліся ў небяспечнай сітуацыі. Людзі ведалі пра сталінскія рэпрэсіі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а таксама пра саветызацыю, якая датычылася ўсіх бакоў жыцця. У сваю чаргу, да асоб габрэйскай нацыянальнасці (па розных падліках, у гэты час на тэрыторыі Літвы знаходзілася ад 14 да 20 тысяч польскіх габрэяў) даходзіла інфармацыя пра халакост, які ажыццяўлялі нацысты на тэрыторыі Генеральнага губернатарства (акупаванай Трэцім Рэйхам часткі Польшчы. — І.М.). У гэтай сітуацыі грамадзяне Другой Рэчы Паспалітай шукалі магчымасць пакінуць небяспечную Еўропу.

## Візы ў Курасаа

На дапамогу прыйшоў консул Нідэрландаў Ян Звартэндэйк. Ён прыехаў у Коўна ў 1938 годзе і заняў пасаду кіраўніка прадстаўніцтва завода «Філіпс». Менавіта ў Коўне ў галандца нарадзіўся яго трэці сын. У траўні 1940 года Германія акупавала Галандыю. Аднак дыпламатычная служба гэтай краіны працягвала падпарадкоўвацца каралеве Вільгельміне. Рашэннем пасла каралеўства Нідэрландаў у Латвіі з пасады консула ў Літве быў зняты дыпламат, жонка якога прытрымлівалася пранацысцкіх поглядаў. Месца звольненага заняў былы супрацоўнік «Філіпса». Хутка пасля гэтага да Яна Звартэндэйка пачалі звяртацца польскія грамадзяне габрэйскай нацыянальнасці з просьбай дапамагчы ім пакінуць савецкую Літву. Галандзец не меў права выдаваць нейкія візы, аднак нягледзячы на гэта ён пачаў упісваць у польскія пашпарты дазвол на выезд у заморскія калоніі Галандыі — Курасаа і Сурынам.

У перыяд з 24 па 27 ліпеня 1940 года Ян Звартэндэйк выпісаў каля 1300 віз. Яшчэ 1050 было аформлена з 29 ліпеня па 2 жніўня 1940 года. Але гэта была частка справы. Трэба было яшчэ атрымаць японскія транзітныя візы, і іх пачаў выдаваць віцэ-консул Чыўнэ Сугіхара. Перад будынкам японскага консульства ў Коўна кожны дзень быў натоўп польскіх грамадзян, якія жадалі пакінуць акупаваную Саветамі Літву. Сярод тых, хто чакаў японскія візы, было нямала афіцэраў Войска Польскага, якія ратаваліся ад сталінскіх рэпрэсій. Аднак большасць з тых, хто стаяў ля консульства, былі польскія габрэі.

Японскі дыпламат выпісваў візы да верасня 1940 года, пры гэтым ён парушаў інструкцыю японскага МЗС, паводле якой трэба было выпісваць толькі транзітныя візы, і выдаваў польскім грамадзянам дакумент на права знаходжання ў Японіі на працягу 10 дзён. Кожны дзень Чыўнэ Сугіхара і яго жонка працавалі па 20 гадзін. Пры гэтым штодня выдавалася месячная норма віз. Праца працягвалася да 4 верасня 1940 года, калі савецкія ўлады запатрабавалі ад японца пакінуць тэрыторыю СССР. Апошнія візы дыпламат выпісваў у ковенскім гатэлі «Метраполь», а таксама на чыгуначным вакзале і ў купэ цягніка, які адпраўляўся ў Берлін. На пытанне, колькі чалавек атрымала «візы на жыццё», даследчыкі адказваюць па-рознаму. Лічба вагаецца ад 2139 да 10000. Пры гэтым невядомая колькасць фальшывых віз. Справа ў тым, што калі консул ад'язджаў з Коўна, то перадаў людзям візавую пячатку і консульскія бланкі, і яны ўжо самі маглі падрабляць японскія візы.


Польскія грамадзяне на параходзе ў Японіі

## Тыя, каго выратавалі

Сярод тых, хто летам-восенню 1940 года атрымаў японскія візы, было шмат ураджэнцаў Беларусі. Якаў Банай нарадзіўся ў сакавіку 1920 года ў Баранавічах. У 1938 годзе ён скончыў гімназію і паступіў у Віленскі ўніверсітэт. У 1940 годзе ён атрымаў японскую візу ад Чыўнэ Сугіхары і праз Турцыю выехаў у Палесціну, дзе стаў у пачатку габрэйскіх узброеных фарміраванняў, а пазней і Арміі абароны Ізраіля. Леа Меламед нарадзіўся ў 1932 годзе ў Беластоку ў сям'і настаўнікаў. У пачатку Другой сусветнай вайны сям'я Меламедаў пераехала ў Літву. Летам 1940 года гэтыя польскія грамадзяне атрымалі транзітную візу ў Японію і ў 1941 годзе апынуліся ў ЗША. Леа Меламед зрабіў выдатную кар'еру як юрыст і гандляр біржавымі ф'ючарсамі.

У 1906 годзе ў Ваўкавыску нарадзіўся ізраільскі палітык і юрыст Цорах Вархафцыг. У верасні 1939 годзе яго сям'я збегла ў Літоўскую рэспубліку, а пазней, дзякуючы візам, атрыманым ад японскага віцэ-консула, польскія грамадзяне праз Японію апынуліся ў Канадзе. У 1947 годзе Цорах Вархафцыг пераехаў у Палесціну, а ў 1949 годзе быў абраны ў першы ізраільскі Кнесет. Ураджэнец Ваўкавыска быў адным з тых, хто падпісаў Дэкларацыю незалежнасці Дзяржавы Ізраіль.

Візы, выпісаныя Чыўнэ, выратавалі жыццё дзясяткам студэнтаў адной з найбольш вядомых на беларускіх землях габрэйскіх рэлігійных навучальных устаноў — іешывы з Міра. Восенню 1939 года яе навучэнцы і выкладчыкі пераехалі ў Вільню. Калі Літва ўвайшла ў склад СССР, габрэі з Міра пачалі шукаць магчымасці з'ехаць. Ім на дапамогу прыйшло консульства Японскай імперыі. Пасля атрымання транзітных віз восенню 1940 года слухачы іешывы, праз тэрыторыю СССР, выехалі ў Шанхай, дзе жылі да 1947 года. Пасля вайны Мірская іешыва падзялілася на дзве часткі: адна група студэнтаў выехала ў Бруклін (ЗША), другая — у Іерусалім (Ізраіль). Такое палажэнне спраў захоўваецца да сённяшняга дня.

## Уцёкі ад бальшавікоў

Пра тое, як польскія грамадзяне габрэйскай нацыянальнасці атрымлівалі японскія транзітныя візы, распавядае ў сваіх успамінах ураджэнец Ліды Самуіл Мански. У пачатку Другой сусветнай вайны ён не быў мабілізаваны ў Войска Польскае, а пазней, пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, нават паспеў паслужыць у народнай міліцыі. Аднак арышты «польскага кантынгенту», якія пачаліся неўзабаве пасля далучэння заходнебеларускіх тэрыторый да БССР, спужалі сям'ю Манскіх, і яны вырашылі выехаць у Літву.


Будынак былога консульства


Спісы людзей на атрыманне японскіх віз


Працоўны стол Чыўнэ Сугіхары ў будыку былога консульства

# беларускіх габрэяў




Вось як Манскі апісвае тыя падзеі: «У жніўні 1939 года мы былі зарэгістраваны на атрыманне эміграцыйных віз у Амбасадзе ЗША ў Варшаве. Мой бацька паехаў працаваць за акіян у 1937 годзе. Пазней амерыканскія ўлады далі яму магчымасць забраць да сябе сям'ю. Аднак пасля пачатку вайны мы ўжо не маглі выехаць у ЗША да бацькі легальна. Тады маці вырашыла пераехаць з Ліды ў Эйшышкі — мястэчка, якое да вайны было ў складзе Другой Рэчы Паспалітай, а пазней перайшло літоўцам. Там у нас былі сваякі, і праз іх мы хацелі «вырвацца» ў Штаты. Маці пачала шукаць людзей, якія перавялі б нас праз мяжу. Мой дзядзька і яго сям'я вырашылі таксама ісці ў Літву. Пакуль мы рыхтаваліся да ўцёкаў, арышты НКУС у Лідзе працягваліся. [...] Я быў міліцыянерам і добра ведаў расклад памежных патрулёў. Мы перайшлі мяжу раніцай і накіраваліся да дома на ўскраіне Эйшышак. Аднак там нас чакалі літоўскія памежнікі. На мне былі польскія афіцэрскія боты і бацькаў вайсковы скураны пас, і літоўцы падумалі, што злавілі польскага афіцэра. Але мы адкупіліся, заплаціўшы памежнікам 100 амерыканскіх долараў. [...] Пазней я паехаў у Вільню і пачаў рыхтавацца да эміграцыі ў Палесціну. [...] У чэрвені 1940 года Літва стала часткай СССР, і мы зноў аказаліся на савецкай тэрыторыі. Хутка мы даведаліся, што японскае консульства ў Коўна выдае візы ў Японію людзям, якія маюць дазвол на выезд у іншыя краіны. Маці, яе сястра і іншыя людзі пачалі шукаць магчымасць атрымання японскай візы. У Коўна брытанскі консул, які дзейнічаў ад імя польскіх эміграцкіх улад, 1 жніўня 1940 года выдаў нам часовыя польскія пашпарты. Адтуль маці і яе сястра накіраваліся а ў японскае консульства з мэтай атрымаць візу ў галандскую калонію Кураcаа ў Карыбскім моры. 9 жніўня 1940 года японскі консул Чыўнэ Сугіхара выдаў візы».

## За транзіт плацілі валютай

Восенню 1939 года літоўскі ўрад спрабаваў дапамагчы польскім грамадзянам габрэйскай нацыянальнасці пакінуць тэрыторыю Літвы. Для гэтага праводзіліся перамовы з савецкімі дыпламатамі, каб атрымаць дазвол на транзіт праз тэрыторыю СССР. У якасці аднаго з калідораў планавалася выкарыстаць порт у Адэсе, аднак Саветы адмовіліся ад гэтай прапановы літоўцаў. 29 сакавіка 1940 года літоўскі МЗС зноў звярнуўся да Народнага камісарыята замежных спраў з просьбай дазволіць праезд праз тэрыторыю СССР 5000 польскіх габрэяў. 21 красавіка 1940 года намеснік наркама Уладзімір Дзеканозаў звярнуўся да свайго шэфа Вячаслава Молатава з лістом, у якім прапанаваў дазволіць бежанцам праезд праз тэрыторыю Савецкага Саюза.

Пры гэтым чыноўнік пазначаў, што савецкі бок мог бы зарабіць на гэтай справе 180 000 долараў ЗША. На той час гэта была вельмі значная сума. Аднак Крэмль чакаў. Летам 1940 года Літва стала савецкай рэспублікай, і сітуацыя бежанцаў яшчэ больш пагоршылася. У гэты момант пачынае працаваць дыпламатычны тандэм Звартэндэйк—Сугіхара.

Акрамя гэтага, японскі віцэ-консул сустрэўся з савецкімі дыпламатычнымі прадстаўнікамі ў Коўна і запатрабаваў адчыніць калідор для польскіх бежанцаў праз савецкую тэрыторыю. У сваю чаргу, бальшавікі ўпэўнілі, што калі польскія грамадзяне будуць мець японскія візы, то Саветы прапусцяць гэтых людзей у Японію. 25 чэрвеня 1940 года Уладзімір Дзеканозаў зноў агучыў «праблему польскіх бежанцаў» перад Крамлём, асабліва падкрэсліваючы, што «польскія грамадзяне забяспечаны візамі і грошамі». Нарэшце, на пасяджэнні Палітбюро ЦК УКП(б) 29 ліпеня 1940 года было прынята рашэнне «дазволіць габрэям-бежанцам з былой Польшчы транзітны праезд праз СССР».

## Экскурсія ў маўзалей і вандроўка праз Урал

Пра тое, як адбываўся пераезд польскіх грамадзян праз савецкую тэрыторыю, узгадвае ва ўспамінах усё той жа Самуіл Манскі. «Савецкае дзяржаўнае агенцтва «Інтурыст» праверыла візы і пачало рыхтаваць наш выезд. Аплату яны прымалі толькі ў амерыканскіх доларах, нягледзячы на тое, што на тэрыторыі СССР было забаронена мець замежную валюту. Бабулі было 82 гады, яна магла не вытрымаць такой доўгай дарогі, і было вырашана, што яна застанецца ў Эйшышках. [...] З Ліды прыходзілі сумныя навіны. Шматлікія знаёмыя былі арыштаваныя і высланыя ў Сібір. Іх абвінавацілі ў тым, што яны былі «памешчыкамі», «эксплуататарамі» ці «контррэвалюцыянерамі». Бальшавікі ўрэшце паказалі свой сапраўдны твар. [...] У студзені 1941 года мы выехалі з Эйшышкаў у Вільню, дзе селі ў цягнік на Маскву. У купэ я паспрабаваў сесці так, каб мяне ніхто не пазнаў.

У Маскве нас пасялілі ў вельмі добры гатэль. Мы накіраваліся ў Амбасаду ЗША, каб атрымаць амерыканскую візу. Але нам паведамілі, што часу мала, каб апрацаваць нашы дакументы, таму іх перададуць у амерыканскае консульства ў японскім горадзе Кобэ. Некалькі дзён мы правялі ў сталіцы СССР. Метро, Музей рэлігіі, Маўзалей Леніна — гэта ўсё мы ўбачылі з гідамі «Інтурыста». [...] З Масквы мы выехалі на Транссібірскім экспрэсе. Ехалі побач з Уральскімі гарамі, праз Чалябінск і Омск. Перад Уладзівастокам мы праехалі Бірабіджан — габрэйскі раён СССР. Я памятаю размову з адным рускім у цягніку. Ён сказаў, што яму ўсё роўна, хто правіць Расіяй — Сталін ці цар. Галоўнае, каб хлеб быў на стале. У Уладзівастоку нас абшукалі савецкія мытнікі. Яны забралі ў маёй маці залаты гадзіннік і далі ёй даведку. Пры гэтым мытнік сказаў, што яна атрымае гадзіннік, калі вернецца ў СССР. Пасля таго, як савецкія памежнікі праверылі нашыя дакументы, мы селі на японскі параход. У Японіі мы былі ў лютым 1941 годзе. Гэта была казачная краіна з малымі домікамі, кветкамі, чыстымі вуліцамі і вельмі ветлівымі людзьмі», — адзначаў у сваіх успамінах Манскі.

Пазней жыхары Заходняй Беларусі пераехалі ў Кобэ. У траўні 1941 года сям'я Манскіх урэшце апынулася ў Вашынгтоне. Такі шлях прайшла большасць польскіх грамадзян габрэйскай нацыянальнасці, якія ў 1939–1941 гадах спрабавалі эвакуявацца з былых усходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай.

## Бальшавікі ловяць шпіёнаў

Савецкія рэпрэсіўныя органы імкнуліся перашкодзіць падробцы японскіх віз на тэрыторыі савецкай Літвы. З восені 1940 года НКУС распрацоўваў справу пад агульнай назвай «фабрыканты», якая тычылася афармлення выязных дакументаў для польскіх грамадзян. Пры гэтым было арыштавана некалькі асоб і канфіскаваны прылады для вырабу пячатак і консульскіх дакументаў. У лютым 1941 года ў Вільне чэкісты арыштавалі Раймонда Раеўскага, у якога былі знойдзены бланкі пашпартоў і японскіх віз. Праз яго ўдалося выкрыць грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці, якія замаўлялі дакументы на выезд у Японію. Арыштаваных абвінавацілі ў шпіянажы і працы на англійскую выведку.

## Праведнікі

А які лёс чакаў японскага і галандскага консулаў? Бальшавікі працяглы час не выпускалі Яна Звартэндэйка з Літвы, аднак пазней ён усё ж выехаў цягнікам у Галандыю. На працягу ўсёй Другой сусветнай вайны ён працаваў на заводзе «Філіпс» і нікому не расказваў пра сваю дзейнасць у Літве. Пасля вайны кіраўніцтва фірмы накіравала яго ў Грэцыю. Толькі ў пачатку 1960-х гадоў у ЗША пачалі з'яўляцца публікацыі, у якіх распавядалася пра тое, як галандзец ратаваў людзей у 1940 годзе. У 1997 годзе Яну Звартэндэйку было прысвоена званне «праведнік народаў свету». Адбылося гэта праз дваццаць гадоў пасля смерці Звартэндэйка.

Што ж тычыцца Чыўнэ Сугіхары, то пасля Коўна ён працаваў у Чэхаславакіі, Кёнігсбергу, Румыніі. У Бухарэсце ён таксама ратаваў мясцовых габрэяў. У канцы Другой сусветнай вайны дыпламат апынуўся ў савецкім палоне і правёў у лагеры 18 месяцаў. У 1946 годзе Чыўнэ Сугіхары дазволілі вярнуцца ў Японію. Праз год былога консула звольнілі з МЗС. Пазней ён працаваў у розных фірмах.

У 1968 годзе Чыўнэ Сугіхара ўпершыню прыехаў у Ізраіль і быў прыняты на высокім дзяржаўным узроўні. У 1985 годзе былы віцэ-консул Японскай імперыі атрымаў званне «Праведнік народаў свету». Памёр Сугіхара ў 1986 годзе.

Сёння ў Вільні і Коўна ёсць вуліцы, якія носяць імя Сугіхары, а ў доме, дзе калісьці знаходзілася консульства Японіі ў Коўна, зараз працуе музей. Незадоўга да смерці спадара Сугіхара запыталі, чым была матывавана яго дзейнасць у 1940 годзе. Дыпламат сказаў: «А што б вы зрабілі, калі б убачылі, як людзі са слязамі на вачах просяць аб дапамозе. Сярод бежанцаў былі старыя і жанчыны. Яны былі гатовы цалаваць мае боты. Я гэта бачыў сваімі ўласнымі вачыма. І я вырашыў не чакаць адказу з Токіа».


Польскія грамадзяне на параходзе ў Японіі

Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава

# Доўгая дарога дадому

Лявон ЦЕЛЕШ

**Шмат таленавітых беларусаў жывуць па-за межамі краіны, але не забываюцца на сваю радзіму. Нядаўна да нас з Хабараўска завітала Ірына Арсеньеўна Оркіна.**

Ірына добра вядомая ў Расіі як паэтка, кераміст, педагог, грамадская дзяячка, сябар Саюза мастакоў Расіі, сябар Міжнароднай асацыяцыі выяўленчых мастацтваў ЮНЕСКА.

А нарадзілася Оркіна ў Мазыры. Калі ёй споўнілася 5 гадоў, бацькі пераехалі на сталае жыццё ў вёску Залатуха, што ва Уладзімірскай вобласці (Расія), дзе Ірына скончыла школу, а пасля — Абрамцаўскую мастацкую вучэльню імя Васняцова. Па заканчэнні вучобы яе накіравалі на працу ў Хабараўск, дзе Ірына скончыла Хабараўскі дзяржаўны педагагічны інстытут па спецыяльнасці «графіка». У Хабараўску адбылося яе станаўленне як мастака-графіка, кераміста, паэта, педагога.

Не толькі на Далёкім Усходзе, але і ў Расіі Ірына Оркіна лічыцца адным з вядучых прадстаўнікоў постмадэрнісцкага мастацтва ў графіцы і скульптуры, а менавіта ў кераміцы. Пра яе гавораць, што гэта мастак, які здольны засёды здзіўляць фантануючымі ідэямі, і пры ўсім тым вельмі працалюбівы. Выставы яе твораў праходзілі двойчы ў Японіі, Францыі, ЗША, некалькі разоў у Германіі, на радзіме — у Мазыры, а ў Маскве яна часта выстаўляе свае графічныя і керамічныя мастацкія творы.



Ірына Оркіна ў сваёй майстэрні

Творчая натура Ірыны Оркінай праяўляецца шырока, яна вядомая і як аўтар незвычайных вершаў, за якімі адкрываецца цэлая філасофія. Шмат яе керамічных, графічных работ суправаджаюцца вершамі, якія адлюстроўваюць сутнасць экспаната або малюнка. На гэтай аснове і пабудаваная яе кніга «Стихографика», а першая яе кніга «Свой круг» выйшла з друку ў 2000 годзе.

Вядомая Ірына Оркіна ў Расіі і як таленавіты педагог. Гэтай зімой яе запрасілі ў Якуцк, дзе яна вучыла дзяцей мастацтву керамікі, а ў Невельску (востраў Сахалін) праводзіла майстар-клас па абпалу керамічных вырабаў. Па ініцыятыве нашай госці ў Хабараўску нават нарадзілася свята — тут штогод пачалі адзначаць Дзень ганчара.

Гэтым разам па дарозе ў Германію, дзе жывуць яе сын і дачка, Ірына Оркіна наведала ў Мазыры свайго 90-гадовага бацьку, Арсенія Пархоменку і сястру Тацццяну, ды на тры дні заехала ў Дзяржынск, каб крыху азнаёміцца з Міншчынай.

У Дзяржынску цікавым гасцям заўсёды аказваюць цёплы прыём. Дзякуючы намаганням дырэктара Дзяржынскай Цэнтральнай раённай бібліятэкі Валянціны Клімовіч ва ўтульнай чытальнай зале бібліятэкі адбылася цікавая сустрэча нашай зямлячкі з паэтамі, мастакамі, настаўнікамі, і наогул з неабыякавымі да творчасці асобамі, якіх набралася поўная зала.

Пачатак свайго выступлення Ірына Арсеньеўна прысвяціла сваім бацькам. Маці яе, Юлія Васільеўна, нарадзілася ў Нараўлянскім раёне, у выселенай зараз вёсцы Цешкаў. У часы Вялікай Айчыннай вайны яна змагалася супраць ворага ў партызанскім атрадзе, а ў пасляваенны час выкладала ў школе Мазыра рускую мову і літаратуру. Бацька, Арсеній Пархоменка, быў угнаны ў нямецкую няволю, а пасля вызвалення зазнаў сталінскія канцлагеры. Пасля вайны ён працаваў рабочым на шэрагу прадпрыемстваў Мазыра.

З вялікім гумарам расказала яна пра свайго дзеда Васіля, які вылучаўся вялікай працадольнасцю: меў некалькі кароў, поўны двор свіней, курэй, гусей. Жонка яго не магла ўпраўляцца з такой вялікай гаспадаркай, і дзед на дапамогу ёй прывёў з хутара другую жонку. Так яны і жылі: у адной палове вялікай хаты адна жонка, а ў другой палове — другая. А дзед займаў сярэдні між імі пакой. А калі жонкі пачыналі між сабой сварыцца, ён на месяц-другі кідаў іх і сыходзіў упрочкі. Быў ён магутны, як волат, і меў несварлівы, талерантны беларускі характар.

Спадарыня Ірына чытала гасцям шмат сваіх вершаў, пазнаёміла іх і са сваёй кнігай «Скульптура свободных ассоциаций», што нядаўна пабачыла свет. Кніга аздоблена мноствам каляровых фотаздымкаў яе керамікі, вершамі.

Жывучы ў Расіі, Оркіна не можа размаўляць па-беларуску, але запэўніла прысутных, што да наступнай сустрэчы засвоіць матчыну мову.

А яшчэ Ірына наведала на Дзяржыншчыне старажытны цудоўны Станькаўскі парк, які ў 60-х гадах XIX стагоддзя заклаў граф Эмерык фон Гутэн-Чапскі. Наведала яна і адроджаную Свята-Мікалаеўскую царкву, якую па загаду камуністычнай улады ў 1961 годзе ператварылі ў руіны. Яе гідам па цікавым станькаўскім мясцінам быў жыхар Станькава, архітэктар, краязнаўца, мастак, аўтар праекта рэстаўрацыі царквы Алег Маслеў.

Ну а я расказаў Ірыне Оркінай пра шмат гістарычных падзей на Беларусі: пра ВКЛ, пра Беларускую Народную Рэспубліку, пра Канстанціна Астрожскага, Кастуся Каліноўскага, пра Ігната Дамейку, пра выдатных нашых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Для Ірыны, якая пражыла амаль усё жыццё ў Расіі, гэтыя факты і імёны былі амаль не вядомыя. Але я спадзяюся, што змог абудзіць у ёй цікавасць да нашай агульнай Радзімы — Беларусі.

Ірына Оркіна запэўніла, што яна, акрамя Мазыра, будзе наведваць і іншыя куточкі Беларусі, і трэба спадзявацца, такія сустрэчы, якая адбылася ў Дзяржынскай бібліятэцы, будуць ладзіцца і надалей. Хочацца верыць, што з цягам часу скончыцца доўгая дарога Ірыны дадому. Бо, як кажа мудрая беларуская прыказка, дарагі той куток, дзе абрэзалі пупок.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1478

Падпісана да друку 20. 11.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.